НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 16 (853) 23 красавіка 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# КРАІНА Ў НАС АДНА

## Аляксандр Лукашэнка:

«Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове — мы перастанем быць нацыяй»

Старонка 3.

29 красавіка — Радаўніца

# Ва Украіне — бяда

«Як Украіну злыя людзі / Прыспяць, лукава, і ў агні / Яе, абкрадзеную, збудзяць...» — гэтыя містычныя радкі Тараса Шаўчэнкі нібы прадказалі драму, што адбываецца ў нашы дні. Калі паўгода назад хтосьці сказаў бы, што Расія прагне падзелу Украіны, яе разбору на анклавы, яго палічылі б за русафоба. Сёння ўкраінскі крызіс зацягнуўся, і выйсця з яго не відаць.

У пачатку мінулага тыдня Кіеў абвесціў антытэрарыстычную аперацыю, вывеў у Данбас войскі і... даў ім загад не страляць. У выніку баевікі захапілі некалькі дзясяткаў БТРаў. Дзейнічаюць сепаратысты арганізавана. Як сцвярджае СБУ (украінскі КДБ), імі кіруюць прафесійныя дыверсанты з расійскага ГРУ.

16 красавіка баевікі спрабавалі захапіць вайсковую часць у Марыупалі. Гэта перапоўніла чашу цярпення, і ўкраінская Нацыянальная гвардыя ўпершыню дала ўзброены адпор. Трое баевікоў было забіта, 13 паранена, 63 затрымана ў наступнай аперацыі на вуліцах, да якой далучыліся таксама СБУ і міліцыя.

Яшчэ тры чалавекі загінулі ў загадкавай страляніне на блокпосце сепаратыстаў каля Слявянска, на трасе Харкаў—Данецк, у велікодную ноч 20 красавіка. Расія тут жа абвінаваціла «Правы сектар». Нібыта ў згарэлай машыне нападнікаў выявілі «візітныя карткі Яраша». Зрэшты, украінскія тэлеканалы звярнулі ўвагу, што расійскі сайт «Лайфньюс» выставіў у Ютуб сюжэт пра сутычку яшчэ да таго, як яна адбылася. Прагучалі абвінавачванні, што некалькіх сепаратыстаў проста прынеслі ў ахвяру, каб стварыць падставу для ўмяшання. Такую версію выказаў, у прыватнасці, былы віцэ-прэм'ер Расіі Альфрэд Кох, які вырашыў не вяртацца ў Маскву з Нямеччыны.

17 красавіка ў Жэневе Украіна, Расія, Еўрасаюз і ЗША падпісалі дамоўленасці пра дээскалацыю канфлікту, але ўсе бакі — акрамя Еўрасаюза — амаль адразу заявілі, што не верaць у шчырасць іншых.

Украінскую тэму чарговы раз узгадаў у сваім пасланні да нацыянальнага сходу Аляксандр Лукашэнка. «Дык нам сёння нагнятаць гэтую абстаноўку і ствараць нейкі кіраваны хаос на ўсходзе Украіны? — у рэзкіх выразах сказаў ён. — Калі нехта кажа, што такой дзяржавы Украіны ніколі не было, то гэта цынізм. Усе дзяржавы ўзніклі на абломках імперый. Так і Беларусь узнікла», — нагадаў Лукашэнка.

Лукашэнка зноў катэгарычна выступіў супраць федэралізацыі: «Гэта зафіксуе раскол Украіны». «Нам, беларусам, гэта не трэба. Мы хочам, каб Украіна была адзінай і пазаблокавай дзяржавай».

22 красавіка ў Кіеў прыляцеў з сімвалічным візітам віцэ-прэзідэнт ЗША Джо Байдэн. Далейшыя правакацыйныя паводзіны Расіі ў дачыненні да Украіны прывядуць да яшчэ большай ізаляцыі РФ, заявіў ён.

Байдэн сустрэўся з кандыдатамі ў прэзідэнты Украіны, сярод іх з фаварытам кампаніі — мільярдэрам Пятром Парашэнкам. Гаворка ішла пра стан узброеных сілаў Украіны і ўмацаванне яе абараназдольнасці.

Але пад вялікім пытаннем застаецца само правядзенне прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных на 25 мая. Сепаратысты ў Данецку і Луганску хочуць арганізаваць рэферэндумы з яшчэ няяснымі пытаннямі 11 і 18 мая.

«У Славянску паўсюль бранятэхніка пад расійскімі сцягамі, — расказаў «Нашай Ніве» журналіст беларускай газеты «Новы час», які знаходзіцца ў Данбасе. — Камандзір гэтай калоны сказаў мне: «Гэта тэхніка для штурму Кіева».

А што значыць «штурм Кіева»? Вялікая кроў, грамадзянская вайна.

Украінцы моцна ўстрывожаныя будучыняй сваёй краіны. Многія з іх гатовыя на крайнія меры. У Днепрапятроўскай абласныя ўлады паабяцалі 10 тысяч даляраў за кожнага злоўленага «зялёнага чалавечка», гэта значыць дыверсанта са зброяй. Паведамляецца, што першыя шэсць выплат ужо зробленыя.

**Сяргей Гезгала**



Баевікі арыштавалі ўкраінскую журналістку. Горад Славянск Данецкай вобласці, 21 красавіка.



У начной перастрэлцы на Вялікдзень загінулі трое штурмавікоў.

## Сцісла

**Кіраўніцтва справаў прэзідэнта набыло сабе банк**

Арганізацыі цяпер належыць 55% акцый «Парытэтбанка». Рэштай валодае Нацбанк, які раней быў асноўным акцыянерам банка. Кіраўніцтва справаў прэзідэнта ўжо мае адзін фінансавы актыў — гэта страхавая кампанія «Прамтрансінвест».

**Перавесці ў беларускую турму**

Маці Вольгі Класкоўскай звярнулася ў Генпракуратуру Беларусі. Яна хадайнічае пра перавод дачкі ў Беларусь і пра перагляд яе справы. Журналістка Вольга Класкоўская асуджаная на сем гадоў турмы за замах на жыццё цяпер ужо былога мужа.

**Арменія — у Мытны саюз**

На пасяджэнні Вышэйшай еўразійскай эканамічнай рады ў Мінску 29 красавіка Арменія мае падпісаць дамову аб уступленні ў Мытны саюз. Краіна ўжо выканала больш за 70% узятых на сябе абавязацельстваў у рамках «дарожнай карты» па далучэнні да арганізацыі.

**Заснавальнік «УКантакце» эміграваў**

«Я не ў Расіі, і планаў вяртацца ў мяне няма. На жаль, краіна ў цяперашні час не сумяшчальная з інтэрнэт-бізнэсам», — заявіў Павел Дураў. Тыдзень таму ён заяўляў пра ціск з боку спецслужб, якія патрабавалі ад яго выдаць асабістыя дадзеныя адміністратараў суполак «Еўрамайдану».

ЯМ

## Апытанні на nn.by

**Ці апраўданае ўжыццё Узброеных сілаў для падаўлення сепаратыстаў?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 1359 | 75% |
| Не | 129 | 7% |
| Залежыць ад сітуацыі | 333 | 18% |

Прагаласаваў 1821 чалавек.

## Самае чытанае за 16—22 красавіка

1 «Імем Рэспублікі Беларусь»: расстраляны Павел Сялюн

2 У Марыупалі ўкраінцы адбілі напад на вайсковую частку, 3 загінулі, 63 затрыманыя

3 Пуцін: Харкаў, Данецк, Луганск, Мікалаеў — гэта Наваросія

4 Андрэй Іларыёнаў: Жэнеўская перамовы — гэта Мюнхен-2014, нават горш

5 Дэпутат Дзярждумы: Песні Цою пісалі ў ЦРУ

6 Расія адступае? Жэнеўская чацвёрка пагадзілася на вызваленне захопленых будынкаў

7 Як правільна вітацца на Вялікдзень?

8 Давыдзька параўнаў вокладку «НН» з карыкатурамі на прарока Мухамеда

9 Фаны «Дынама» і «Шахцёра» разам склалі герб, спявалі гімн і скандавалі «Пуцін — х***ло»

10 БТ запусціла іміджавыя ролікі пра беларускую мову

# Лукашэнка: **Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове — мы перастанем быць нацыяй**

У штогадовым пасланні да народа і парламента Аляксандр Лукашэнка шмат гаварыў пра **незалежнасць**.

«Я звяртаюся ў няпрosты час. Дзяржавы вакол нас прыйшлі ў рух: вірue Украіна, у поўны гістарычны рост спрабуе ўстаць Расійская Федэрацыя. Бурацца межы на нашых вачах. Упершыню ў Еўропе пацягнула дымком выбухаў», — пачаў выступ у Авальнай зале кіраўнік дзяржавы.

Падзеі ва Украіне — галоўная геапалітычная тэма. Таму так ці інакш, але ўсё круцілася вакол гэтага пытання. Лукашэнка цытаваў Евангелле ад Мацвея, што «дом, які раздзяліўся сам у сабе, не выстаіць».

«Мы ў Беларусі і не хочам, і не павінны дапусціць расколу, — сказаў Лукашэнка. — Наша незалежнасць і маладая дзяржаўнасць раздражняюць, вядома ж, шмат каго. І калі ў нашым адзінстве з'явяцца расколіны, абавязкова знойдуцца тыя, хто захоча гэтым скарыстацца».

Хай Лукашэнка і спрабаваў спадабацца «і вашым і нашым», але з кантэксту вынікала, што пагроза для краіны сёння зыходзіць з усходу, а зусім не ад НАТА.

Ён назваў абсалютным глупствам вымыслы пэўных дзеячаў, што ў Беларусі прыцясняюць правы рускіх. «Напэўна, руская ў Беларусі прыцясняюць самі сябе». Найхутчэй, ён меў на ўвазе асяродак, блізкі да сайтаў «Імперыя.by» і «Рэгнум.ru». Згадаў Лукашэнка і белмоўныя шыльды геаграфічных назваў і вуліц гарадоў, якія яму таксама ставяць у віну: «Ды яны заўжды такімі былі».

Не абмінуў у сваім выступе і скандальнага віцебскага чыноўніка Андрэя Герашчанку. Актывіст расійскага руху, будучы на дзяржаўнай пасадзе, адмаўляў беларускай дзяржаўнасці ў існаванні. З падачы Уладзіміра Макея яго ў свой час звольнілі, «Імперыя.by» назвала гэта «ліцвінскай змовай». Лукашэнка выказаў здзіўленне, што яго «дагэтуль не выкінулі з Беларусі». «Да такіх людзей падыходзіць як да дыверсантаў!» — Лукашэнка аддаў загад старшыні КДБ Валерыю Вакульчыку.



Так быў вывучаны вопыт Усходняй Украіны, дзе Расія ўкладвала грошы ў мясцовую агентуру, якая ў будучыні стала ядром сепаратысцкага руху.

Упершыню ў выступах Лукашэнкі ролю «пятай калоны» адыгрывалі прарасійскія дзеячы, а не апазіцыя. Дарэчы, апазіцыя таксама атрымала ясны пасыл. «Мы супраць аднадумства, але любыя спробы радыкалізацыі будуць жорстка спыняцца. Мы за любую апазіцыю, якая дзейнічае ў рамках закона».

Лукашэнка ўстаў на абарону беларускай мовы. «Калі мы перастанем гаварыць па-руску — мы страцім розум. Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове — мы перастанем быць нацыяй», — падкрэсліў Лукашэнка. А пасля пашкадаваў, што родная мова ў краіне падтрымліваецца занадта асцярожна. Вялікім пазітывам стане, калі гэтыя словы застануцца не проста дэкларацыяй, а на дзяржаўным узроўні будуць прынятыя рэальныя крокі ў падтрымку беларускай мовы.

Гаворачы пра магчымую расійскую агрэсію супраць Беларусі, ён паўтарыў словы, што ў выпадку чаго сам узначаліць абарону краіны. «Нас палохаюць, што прыйдзе Пуцін. Калі прыйдзе, то невядома яшчэ, за каго будуць руския».

Другі блок нечакана быў прысвечаны не эканоміцы, у якой не прагучала ніякіх новых думак, а барацьбе з карупцыяй. Лукашэнка агучыў з дзясятак падрабязнасцяў крымінальных справаў. Напрыклад, пра тое, што старшыня Белкаапсаюза Сяргей Сідзько набыў на крадзеныя грошы дом на Канарах, а зарэгістраваў на дачку. Былы намеснік генпракурора Архіпаў атрымаў у хабар залаты злітак, за гэта ён спыніў справу супраць кіроўцы, што насмерць збіў дзяўчыну. Заведзеная таксама справа на былога кіраўніка Гомельскага абласнога КДБ Івана Ляскоўскага. Паслухаеш такое — і складваецца ўражанне, ці ёсць яшчэ ўвогуле сумленныя людзі ў вышэйшых эшалонах.

Порцыя крытыкі дасталася ўраду і асабіста прэм'ер-міністру Міхаілу Мясніковічу, якіх абвінавачвалі ў пасіўнасці і бяздзейнасці. «У нашым дзяржапараце сярод дырэктарата ўсё больш распаўсюджваецца атмасфера апатыі і абыякавасці». Узнікае пытанне: дык а хто прызначаў гэтых людзей і ўтрымлівае на пасадах? (Глядзі таксама старонку 10.)

Аб дэвальвацыі — цэнтравая тэма некаторых папярэдніх пасланняў — было сказана толькі аднойчы. Лукашэнка паабяцаў, што ніякага раптоўнага абвалу рубля пасля чэмпіянату свету па хакеі не будзе. Але не прамінуў магчымасці папікнуць тых, хто вывозіць валюту з краіны: «Калі б нашы сілавікі ды іх жонкі і каханкі менш ездзілі ў Літву і Польшчу на закупы, мы пакінулі б шмат мільярдаў даляраў у сябе».

Сярод іншага кіраўнік краіны заклікаў беларусаў да здаровага ладу жыцця. Калі ўвесь свет занепакоены праблемамі здароўя, беларусы нічога не робяць, каб працягнуць сабе жыццё. «Навошта на ноч ты бульбу з мясам ясі? Як ты спаць будзеш? Не еш мяса, замяні сялёдкай, рыбай. Не шкадуем мы сябе, труцім чым папала».

Новыя выклікі ставяць перад Лукашэнкам пытанні, на якія даводзіцца рэагаваць, таму сёлетняе пасланне атрымалася менш рытуальным, чым звычайна.

**Зміцер Панкавец**

# Дзе жывуць дочкі Пуціна?

Кацярына Пуціна выйшла **замуж за карэйца**.

Удзельніца шоу Britain's Got Talent («Брытанія мае талент») Лэціс Раўботэм і яе калектыў High On Heels выступілі на вяселлі малодшай дачкі прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, піша The Daily Mirror. Па словах скрыпачкі, за працу ёй заплацілі 200 фунтаў стэрлінгаў.

Сцвярджаецца, што трохдзённая вясельная цырымонія праходзіла ў элітным гатэлі La Mamounia ў Маракешы. Менавіта там пабраліся шлюбам 27-гадовая Кацярына Пуціна і 28-гадовы Юн Джун Вон, гаворыцца ў артыкуле. Былі звесткі, што прэзідэнт Расіі спачатку не ўхваліў такі выбар дачкі, але потым даў згоду. Юн Джун Вон — сын карэйскага дыпламата, які працаваў у Маскве.

«Гэта было сапраўды весела, такі незвычайны досвед. У той час гэта з'явілася топ-сакрэтам, мы не маглі нікому паведаміць пра тое, што робім», — распавяла Раўботэм.

Газета дадае, што вяселле прайшло «ў расейскіх традыцыях» і што «цырымонію наведалі некалькі персон міжнароднага маштабу».



**Уладзімір Пуцін з былой жонкай Людмілай і дачкой Кацярынай.**

Ва Уладзіміра Пуціна дзве дачкі: 28-гадовая Марыя і 27-гадовая Кацярына. Інфармацыі пра іх няшмат, яны не вядуць публічнае жыццё, стараюцца трымацца ў цені. Марыя вучылася ў Пецярбургскім універсітэце на біёлага, Кацярына — на ўсходазнаўцу. Сам Пуцін не так даўно сказаў: «Я ганаруся, што мае дочкі жывуць і працуюць у Расіі».

Тым не менш, час ад часу прыходзіць процілеглая інфармацыя. Напрыклад, пра Кацярыну кажуць, што яны жыве ў Мюнхене (дарэчы, абедзве дзяўчыны нарадзіліся ў ГДР, калі там служыў іх бацька). Але гэтая інфармацыя не пацверджаная.

Затое ёсць больш пэўнасці наконт Марыі. Журналісты адкапалі, што яна разам з мужам пражывае ў малым галандскім гарадку Варсхотэн. Ейны муж — галандзец Ёрыт Фаасэн, раней ён працаваў на «Газпром». Сям'я займае пентхаўз (верхні паверх) у элітным доме.

Пакуль дзяржаўныя расійскія тэлеканалы на ўсе галасы бэсцяць Захад і тамтэйшы лад жыцця, дзеці кіраўніка краіны выбіраюць жыццё ў «гнілой Еўропе».

**ЗП**

## «Чарнобыльскі шлях» — 26 красавіка

Гарвыканкам дазволіў правядзенне «Чарнобыльскага шляху» ў звыклым апошнім часам фармаце: збор удзельнікаў з 16.00 да 16.30 каля кінатэатра «Кастрычнік», шэсце па праспекце Незалежнасці і вуліцы Сурганава да парку Дружбы народаў, правядзенне ў парку мітынгу з 17.30 да 18.30.

## Сціcла

**Піліпец асуджаны на 5 гадоў**

калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Піліпца абвінавацілі ў тым, што ён размеркаваў 24 кватэры паміж сваякамі, блізкімі і знаёмымі.

**Кіраўніком СБУ Данецкай вобласці стаў беларус**

В.а. прэзідэнта Украіны Аляксандр Турчынаў прызначыў начальнікам Упраўлення Службы бяспекі Украіны ў Данецкай вобласці Валерыя Рудніцкага. Ён родам з Мінска.

**Мэр Гродна стаў намеснікам Шэймана**

Аляксандр Лукашэнка прызначыў Андрэя Худыка намеснікам кіраўніка справаў прэзідэнта. Ён сам з Хмяльніцкай вобласці Украіны, а працаваў у Ваўкавыскім, Дзятлаўскім і Лідскім райвыканкамах.

**ЯМ**

# Як хочуць узаконіць парушэнні пры забудове Курапатаў?

**Ахоўную зону прапануюць пасунуць, каб пакінуць грыль-альтанкі «Бульбаш-хола».**

17 красавіка некалькі дзясяткаў актывістаў сабраліся ў Бараўлянах на грамадскае абмеркаванне плана дэталёвага планавання (ПДП) тэрыторыі Курапатаў.

Мясцовыя ўлады (а Курапаты пакуль уваходзяць у склад Мінскага раёна) прэзентавалі дакумент, які выклікаў пытанні ў грамадскасці яшчэ да свайго ўступлення ў сілу. Сітуацыя аказалася заблытанай з юрыдычнага пункту гледжання і абуральнай, перакананыя актывісты, — з маральнага.

### Забароненыя альтанкі

Яшчэ 10 гадоў таму Міністэрства культуры прыняло план зонаў аховы тэрыторыі гісторыка-культурнай каштоўнасці Курапаты, але ў дакумент запісалі, што ён «часовы». Кіраўнік Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч удакладняе, што паняцця «часовы план» у заканадаўстве адсутнічае, таму дакумент усё яшчэ працягвае дзейнічаць.

Насуперак заканадаўству, улады Мінскага раёна пачалі выдзяляць навакольную зямлю пад будаўніцтва. І ў сярэдзіне 2012 года каля МКАД пачалося ўзвядзенне рэстарана «Бульбаш-хол» — з лазняй, дзіцячай пляцоўкай і некалькімі грыль-альтанкамі з відам на крыжы Курапатаў. Грамадскасць была абураная як амаральным суседствам, так і назвай рэстарана.

Але маральны бок пытання не рэгулюецца законам. Прэтэнзіі можна было высунуць толькі да чатырох альтанак, якія былі пабудаваныя ў ахоўнай зоне. Пракуратура вынесла прадпісанне — знесці. Аднак і забудоўшчык, і мясцовыя ўлады праігнаравалі загад. На прамое пытанне актывістаў, чаму прадпісанне не выканана, кіраўнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Мінскага раёна Валянцін Драздоў зрабіў здзіўлены выгляд: маўляў, нічога пра гэта не ведаю.

### Парк ці мемарыял?

Мінскі райвыканкам тым часам даручыў архітэктарам распрацаваць дэталёвае планаванне тэрыторыі Курапатаў. План прэзентаваў галоўны архітэктар праекта Аляксандр Акенцьеў, стваральнік мінскага генплана. Ён прапануе зрабіць з Курапатаў «мемарыяльны парк», а на яго тэрыторыі пабудаваць мемарыял «Недабудаваны храм».

Актывісты абураюцца: як можна назваць гэтае святое месца паркам, чаму Хатынь не парк, а Курапаты — парк? «Няма парку, дзе б людзі ляжалі пад нагамі», — кажа старшыня «Хрысціянскай злучнасці Курапаты» Вацлаў Нямковіч. З ім салідарная і навуковы кіраўнік мемарыяльнай зоны «Курапаты» Мая Кляшторная, чый бацька, паэт Тодар Кляшторны, быў расстраляны ва ўрочышчы.

Каб зрабіць Курапаты турыстычным аб'ектам, Акенцьеў хоча пабудаваць непадалёку стаянку для аўтобусаў. Траса Калодзішчы—Заслаўе, якая праходзіць на поўнач ад урочышча, стане чатырохпалоснай, а між Курапатамі і гандлёвым цэнтрам «Экспабел» можа паўстаць выставачны комплекс.


Удзельнікі грамадскага абмеркавання не разыходзіліся больш за тры гадзіны.

### Новыя ахоўныя зоны

На грамадскім абмеркаванні прэзентаваўся і праект новых ахоўных зон. Яго стваральнік, архітэктар Вадзім Гліннік, адразу ўдакладніў, што закон ужо парушаны: распрацоўка зон аховы мусіла быць першаснай, без іх зацвярджэння стварэнне плана дэталёвага планавання забаронена. А ў сітуацыі з Курапатамі праекты распрацоўваліся адначасова.

Гліннік прызнаў, што да яго звярнуліся, каб прывесці «ўжо зламаныя зоны аховы ў адпаведнасць з рэальнасцю». Так і атрымалася — і «Бульбаш-хол», і ягоныя альтанкі ён прапануе пакінуць па-за межамі ахоўных зонаў. «На маю думку, будынак «Бульбаш-хола» не замінае праекту... Пра маральны бок я маўчу. Маральны бок я цалкам падзяляю з вамі: на маю думку, піць гарэлку і шашлыкі смажыць на костках — амаральна. Ні маёй нагі, ні маёй сям'і там не будзе», — выказаў Гліннік сваю пазіцыю як грамадзянін.

Архітэктар тлумачыць, што вызначаныя ім ахоўныя зоны — самыя дакладныя. Па словах Глінніка, вывучаліся старыя ваенныя карты. Быў улічаны і рост лесу: дрэвы ў 1930-ыя займалі значна меншую тэрыторыю, чым цяпер.

Барацьба за Курапаты канчаткова пераходзіць у папяровае рэчышча. Актывісты пакінулі ранейшыя спрэчкі між сабой. У сваіх прапановах яны просяць дапрацаваць праект планавання з улікам ахоўных зонаў, вызначаных у 2004 годзе, а таксама знесці-такі чатыры грыль-альтанкі.

**Ягор Марціновіч, фота Сяргея Гудзіліна**

# Пацёмкінская вёска ў цэнтры Мінска


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Перад прыездам Лукашэнкі дом закрылі шырмамі.**

Выезд Аляксандра Лукашэнкі ў рэгіёны — заўсёдны стрэс для мясцовых чыноўнікаў. Падрыхтоўка тэрыторыі да візіту кіраўніка дзяржавы пачынаецца за некалькі тыдняў. Спецыяльныя камісіі па некалькі разоў на дзень абыходзяць месцы, куды можа кінуць позірк Аляксандр Лукашэнка: як бы чаго не выйшла. Бо калі той адхіліцца ад запланаванага маршруту — чакай бяды. Барысаўскія і слуцкія чыноўнікі не дадуць зманіць.

14 красавіка Аляксандр Лукашэнка ўрачыста адкрываў у Мінску чатырохзоркавы гатэль «Рэнесанс», які пабудаваў «мільярдэр Міша» — уласнік «Раснафты» Міхаіл Гуцэрыеў.

Пачатак праспекта Дзяржынскага — ласы кавалак сталіцы. Да вакзала і плошчы Незалежнасці адсюль 1—2 км, таму офісныя і жылыя дамы тут растуць, як грыбы пасля дажджу.

Нягледзячы на прыезд кіраўніка дзяржавы, гатэль быў усё яшчэ не дабудаваны. На апошніх паверхах, куды не павялі Лукашэнку, будаўнікі працягвалі працаваць і ў наступныя дні. Рэальнае адкрыццё гатэля адбудзецца толькі ў пачатку мая.


MAPS.YANDEX.BY
Дом да прыезду Лукашэнкі.

Але самае цікавае адбывалася праз дарогу ад «Рэнесанса». Насупраць гатэля — паркавая зона, больш падобная на пустку, пасярод якой засталіся два будынкі. Адзін з іх — стары двухпавярховік, пакоі якога падзеленыя паміж дробнымі арганізацыямі. Глядзіцца ён няважна, але, у адрозненне ад суседняга будынка, хаця б прыкрыты дрэвамі.

А вось «сусед»... У рэестры Нацыянальнага кадастравага агенцтва хатка па адрасе Розы Люксембург, 89а апісаная надзвычай удала: «будынак нявызначага прызначэння». Складаецца ён з трох сенцаў, трох хлявоў ды туалета на двары.

За некалькі дзён да прыезду Лукашэнкі будынак раптоўна змяніў выгляд. Дзве сцяны ператварыліся ў... яркі зялёны лес, яшчэ адна «стала» цаглянай і займела акуратныя акенцы. Намаляваныя. Шырмы глядзяцца ненатуральна, але, па меркаванні чыноўнікаў, больш выйгрышна, чым рэальнасць.

Паводле дакументаў, у хатцы засядае загадкавае СТАА «Ліўбел». Летам 2010 года гэтая нікому невядомая кампанія атрымала ад Мінгарвыканкама ўчастак пад будаўніцтва дома. Гарадскія ўлады вырашылі нават не праводзіць фармальны аўкцыён з гэтай нагоды.

20-павярховік мусіў паўстаць на той самай пустцы насупраць гатэля «Рэнесанс». Калі Камітэт дзяржкантролю даведаўся, што кампанія сабралася будаваць офісны цэнтр і толькі некалькі паверхаў пакінуць пад кватэры, праект замарозілі. А «Ліўбел» прапаў. Ніводзін з нумароў кампаніі не адказвае, а наведвальнікаў чакаюць замкнёныя дзверы. Хто паклапаціўся пра выгляд хаткі іператварыў яе ў лес, застаецца невядомым.

**ЯМ**

# Адсек прыяцелю рукі, каб таго не пазналі па адбітках пальцаў

**У Расіі асудзілі беларуса за двайное забойства землякоў.**

31-гадовы ўраджэнец Магілёўшчыны Аляксей К.* адправіцца за краты на 21 год. Яго прызналі вінаватым у двайным забойстве, разбоі, крадзяжы аўто, наўмысным пашкоджанні чужой маёмасці, уцёках з-пад варты.

*імя зменена

Раней Аляксей быў судзімы і на радзіме. Яму далі 15 гадоў за забойства з хуліганскіх памкненняў, але ў кастрычніку 2011 вызвалілі ўмоўна-датэрмінова — за добрыя паводзіны.

Але воля аказалася для яго цяжарам. Летам 2012 магілёвец даведаўся, што ў прыяцеля ёсць вялікія грошы — $20 тысяч. Каб іх скрасці, прыдумаў цэлы план. А ў памагатыя ўзяў былога зэка.

Аляксей прапанаваў багатаму земляку ўзначаліць брыгаду будаўнікоў для працы ў Маскве. Той пагадзіўся. Нават прапанаваў ехаць на сваім «Мерсэдэсе». Прыхапіў з сабой і грошы.

Выехалі ўтрох з Магілёва ў ноч на 10 верасня 2012. А праз 330 км, каля вёскі Чорнае Вяземскага раёна, пасажыры папрасілі спыніцца — нібы па патрэбе. Выбралі, калі на дарозе не было іншых машын. А калі вярнуліся з кустоў, накінулі кіроўцу на шыю рэмень. Той вызваліўся і кінуўся на ўцёкі.

Дагналі і задушылі ўжо ў кювеце. Скралі $20400 і 20 тысяч расійскіх рублёў. Каб земляка не пазналі па адбітках пальцаў, адсеклі яму рукі. А цела кінулі ў лесе.

Затым развярнуліся і паехалі назад у Беларусь. Але па дарозе завадатар вырашыў не дзяліцца з памагатым. Калі спыніліся каля могілак уРаслаўльскім раёне, каб спаліць сваё адзенне, Аляксей зарэзаў знаёмага зэка. Дадому вырашыў вяртацца на чужым аўто. Але ў Дарагабужскім раёне вылецеў у кювет. Машына захрасла — і беларус яе падпаліў.

Затрымалі яго ў Расіі праз паўтара тыдня. Праўда, ужо з ізалятара Аляксей паспрабаваў збегчы — злавілі ў той жа дзень. Цяпер давядзецца сядзець за кратамі. У Беларусі за двайное забойства прадугледжана пакаранне аж но да расстрэлу. У Расіі на смяротнае пакаранне накладзены мараторый.

**Кастусь Матушыч**

## «Імем Рэспублікі Беларусь» — расстраляць

**Прысуд у дачыненні да Паўла Селюна прывялі ў выкананне.**



23-гадовага студэнта гістфака БДУ расстралялі, хоць яго ны зварот яшчэ знаходзіцца на разглядзе Камітэта па правах чалавека ААН.

12 чэрвеня 2013 Гродзенскі абласны суд прызнаў Паўла Селюна вінаватым у забойстве дзвюх асобаў, учыненым з асаблівай жорсткасцю; крадзяжы; здзеку з трупаў; крадзяжы асабістых дакументаў. Да гэтага малады чалавек не меў судзімасцяў.

Сялюн звяртаўся з прашэннем аб памілаванні на імя кіраўніка дзяржавы, але, як высветлілася, марна. 18 красавіка ад адваката стала вядома, што Паўла ўжо расстралялі. Маці да апошняга не ведала рашэння камісіі аб памілаванні і дату выканання прысуду. Надоечы яна збіралася на спатканне з сынам.

Свае дзеянні Сялюн патлумачыў рэўнасцю: у гродзенскай кватэры Павел заспеў сваю жонку з каханкам. Хлопец забіў абаіх, а каханка, які быў яшчэ і ягоным сябрам, расчляніў і вынес па частках на сметніцу — пакінуў толькі галаву. Яшчэ два дні заставаўся на той кватэры. А пасля паклаў галаву ў сумку і паехаў з горада. Яго затрымалі ў цягніку на Мінск.

**Паводле spring96.org**

## 5-гадовы хлопчык патануў, пакуль бацька купляў аўтазапчасткі

**Няшчасны выпадак у Гомельскім раёне.**

Трагедыя адбылася 19 красавіка на 9-м км Чарнігаўскай шашы. Бацька заехаў на мінірынак, каб набыць запчасткі да аўтамабіля. Пакуль выбіраў-прыцэньваўся, яго сын адышоўся. Калі ж бацька спахапіўся, хлопчыка нідзе не было. Шукаў па ваколіцы. А пасля чалавек падказаў, што бачыў дзіцячую шапачку ў калектары, недалёка ад мінірынку.

Мужчына пазнаў сынаву шапачку. У адчаі хацеў сам спусціцца ў ваду і правесці страшную здагадку, але не здолеў — надта глыбака. Давялося выклікаць ратавальнікаў. Вадалаз дастаў са дна ўжо нежывога хлопчыка. Следчы камітэт праводзіць праверку.

Ратавальнікі заклікаюць бацькоў быць пільнымі, абмяркоўваць пытанні бяспекі з дзецьмі ўжо з самага ранняга ўзросту.

**Сяргей Макарэвіч**





Баўмгертнер (злева) і Керымаў.

## Справу Баўмгертнера і Керымава перадалі ў Расію

**А «Беларуськалій» і Беларускую калійную кампанію прызналі пацярпелымі ў справе.**

«Следчым камітэтам Беларусі прынята рашэнне пра перадачу крымінальнай справы па абвінавачванні былых службовых асобаў Беларускай калійнай кампаніі У.Баўмгертнера, С.Керымава і іншых (усіх 6 чалавек) асобаў праваахоўным органам Расійскай Федэрацыі, паколькі ўсе абвінавачваныя з'яўляюцца грамадзянамі Расіі і знаходзяцца на яе тэрыторыі, — паведамілі ў СК Беларусі. — Па запыце СК Генеральная пракуратура Беларусі праводзіць работу па падрыхтоўцы і прад'яўленні іскавых патрабаванняў да асобаў, вінаватых у нанесенай шкодзе беларускім прадпрыемствам».

Нагадаем, былы гендырэктар «Уралкалія» і экс-старшыня Назіральнай рады Беларускай калійнай кампаніі Уладзіслаў Баўмгертнер быў арыштаваны ў Мінску ў жніўні 2013. Яго абвінавацілі ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі, што прывяло да вялікіх стратаў беларускай кампаніяй. У лістападзе яго экстрадзіравалі ў Расію, дзе ён знаходзіцца пад хатнім арыштам.

Нядаўна беларускі бок скасаваў свой запыт у Інтэрпал пра вышук Баўмгертнера і мільярдэра Сулеймана Керымава (былога ўладальніка «Уралкалія»), бо яны знаходзяцца ў юрысдыкцыі расійскіх праваахоўнікаў.

**СМ**

### Вышук



**Збірала ахвяраванні**

Жанчына падазраецца ў махлярстве: у Пінску збірала ахвяраванні на будаўніцтва храма і на лячэнне дзіцяці, але грошы пакідала сабе. Хто пацярпеў ад жанчыны на фота, звяртайцеся ў Пінскае ГАУС на (0165) 31-28-02.

### Сцісла

**Міліцыянт сачыў за людзьмі**

Міліцыянт з былым калегам праз інтэрнэт рэкламавалі паслугі прыватных дэтэктываў. І да іх звярталіся: прасілі прасачыць за мужамі, жонкамі, каханкамі. Шпегі ж прадавалі сваім кліентам звесткі з базы дадзеных МУС. Цяпер «дэтэктывы» чакаюць суда.

**Гвалтаваў на пару з сынам**

На 15 гадоў адправіцца ў турму жыхар Светлагорскага раёна, які раней быў памочнікам выхавальніка дзіцячага дома сямейнага тыпу. Яго прызналі вінаватым у гвалтаванні непаўналетніх дзяўчатак, якіх выхоўваў. Таксама ён павінен сплаціць тром з іх па 50 мільёнаў рублёў (чацвёртая пазоў не падавала). Яшчэ на следстве высветлілася, што гвалтаваў дзяўчатак і сын гаспадара: яго ўжо асудзілі на 9 гадоў.

**Банкамат аблічыўся на $170 тысяч**

Рабочы з Наваполацка з-за збою ў банкаўскай сістэме за 9 месяцаў зняў з карткі 1,7 мільярда рублёў. На балансе аперацыя спісання грошай не адлюстроўвалася. Мужчына заўважыў «цуд», але ўсё адно працягваў сістэматычна здымаць грошы. Калі факт выявілі, супраць яго завялі крымінальную справу за махлярства. На яго маёмасць накладзены арышт.

**Збілі пенсіянераў**

Яшчэ 22 сакавіка каля сталічнага парку Горкага трое маладзёнаў збілі двух пенсіянераў. Мужчыны вярталіся з прагулкі, калі выпадкова сутыкнуліся з п'янымі хлопцамі. Маладзёны палічылі, што іх штурхнулі спецыяльна. І збілі пенсіянераў. Хуліганы збеглі, калі на іх закрычала дзяўчына на вуліцы. З лёгкімі цялеснымі пашкоджаннямі мужчын шпіталізавалі. Міліцыя шукае нападнікаў: просяць звяртацца на (017) 230-34-34.

**Вымагаў $5 мільёнаў**

Дырэктар інвестыцыйнай кампаніі атрымаў 279 га для рэалізацыі праекта па пабудове элітнага пасёлка ў Мінскім раёне. А пасля перадумаў будаваць. Спрабаваў знайсці новага інвестара, які б перакупіў у дзяржавы вялізны надзел. І такі ахвотны знайшоўся. Але дырэктар паспрабаваў нажыцца: патрабаваў $5 мільёнаў ад пакупніка нібыта на хабар высокім чыноўнікам, каб улагодзіць усе пытанні. Затрымалі дырэктара ў верасні 2012. А цяпер яго на 5 гадоў адправілі за краты, яшчэ і з канфіскацыяй маёмасці.

**КМ**

# Інвестары не прыйшлі —

Пяць самых цікавых новых мінскіх гатэляў

Да чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску хацелі набудаваць дзясяткі новых гасцініц. Інвестары з самых розных краін свету — ад Ірана да Галандыі і Славеніі — абяцалі ўкласці дзясяткі, калі не сотні тысяч даляраў у будаўніцтва.

Але гладка было толькі на паперы. З 13 гатэляў, якія запрацавалі ў апошнія паўгода, толькі тры пабудаваныя на грошы прыватнікаў. Сітуацыю давялося ратаваць за кошт дзяржаўных арганізацый. А значыцца, і ўсе камерцыйныя рызыкі па запаўняльнасці гатэляў пасля чэмпіянату свету лягуць на плечы бюджэту.

«Наша Ніва» выбрала сярод пабудаваных гасцініц самыя цікавыя праекты.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Самы прыгожы**

«Рэнесанс» (4*) — адзіны з мінскіх гатэляў, які сёлета асабіста адкрываў Аляксандр Лукашэнка. І не выказаў істотных прэтэнзій, толькі параіў часцей выкарыстоўваць айчынную прадукцыю пры аздабленні. Рэдкая з'ява, але і ад экспертаў не прагучала ніводнага абвінавачвання ў безгустоўнасці ў бок архітэктараў гасцініцы. Дарэчы, у інтэр'ерах гатэля выкарыстаныя матывы Белавежскай пушчы.

Расійскі інвестар перадаў гасцініцу пад кіраванне сусветна вядомай сеткі «Марыёт». Магчыма, што «Рэнесанс» паспрабуе атрымаць сертыфікат пяцізоркавага гатэля. А на час чэмпіянату свету ў яго засяляцца шэсць зборных, сярод якіх зорныя Канада, Чэхія і Швецыя.

Неўзабаве ў будынку запрацуюць спа-цэнтр і казіно.

**Уласнік** — «Раснафта» (Расія)
**Змяшчальнасць** — 267 нумароў
**Самы танны нумар** — $250
**Самы дарагі нумар** — $1600

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Самы зорны**

Кітайцам дазволілі адкласці адкрыццё гатэля на апошнія дні красавіка. Некалькі месяцаў пайшло на «перамовы» з мясцовымі жыхарамі, якія марна змагаліся супраць будаўніцтва «Пекіна» (5*) на месцы парку 40-годдзя Кастрычніка.

Рабочыя на будоўлю прыехалі з Кітая — гэта была ўмова інвестара. За два гады яны фактычна дабудавалі першы кітайскі квартал у сталіцы.

**Уласнік** — «Пекін Юні-Канстракшн Груп»
**Змяшчальнасць** — 200 нумароў
**Самы танны нумар** — $340
**Самы дарагі нумар** — $680






СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Самы экзатычны**

Да рэстаўрацыі ў будынку на плошчы Свабоды, дзе адкрыўся «Манастырскі» (4*), знаходзіўся кляштар бернардынцаў. Затое цяпер — рэстаран, трэнажорная зала, саўна і більярдная зала. А ў манастырскіх келлях абсталяваныя некалькі дзясяткаў нумароў для турыстаў.

Вернікі некалькі гадоў прасілі вярнуць будынак ім, ды ўсё марна.

**Фактычны ўласнік** — Мінгарвыканкам
**Змяшчальнасць** — 48 нумароў
**Самы танны нумар** — $110
**Самы дарагі нумар** — $231

# будавала дзяржава

**Не паспелі**

**«Кемпінскі»** — гатэль будуецца на праспекце Незалежнасці на беразе Свіслачы ля цырка. Кампанія Юрыя Чыжа атрымала льготы як забудоўшчык гасцініц для патрэбаў чэмпіянату, але канца працам яшчэ не бачна.

**«Хаят»** — ліванска-непальскі інвестар фактычна замарозіў будаўніцтва пяцізоркавага гатэля на Новавіленскай.

**Самы высокі**

Трохгадовую рэканструкцыю гасцініцы «Беларусь» (3*) варта было пачынаць толькі дзеля стварэння панарамнага ліфта. Назіральная пляцоўка на 22-м паверсе даступная не толькі для пастаяльцаў, але і для турыстаў. На версе будынка ўлетку плануюць нават адкрыць кавярню.

Ад першасных глабальных планаў па перабудове «Беларусі» давялося адмовіцца. Рэканструкцыя закранула перадусім інтэр'еры, замянілі і мэблю.

**Фактычны ўласнік** — Дзяржаўны камітэт па маёмасці
**Змяшчальнасць** — 484 нумары
**Самы танны нумар** — $110
**Самы дарагі нумар** — $460





СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Самы скандальны**

Яшчэ адна сусветная сетка, «Рэдысан», мелася прыйсці ў Беларусь пяць гадоў таму. Аднак усё было не дзякуй Богу. Штабкватэру Нацыянальнага Алімпійскага камітэта і гатэль пры ім на рагу праспекта Пераможцаў і Вясёлкавай вуліцы спачатку будаваў нямецкі інвестар. Яго выгналі і паклікалі расейцаў. Неўзабаве давялося выганяць і тых... Праца, прычым адразу аўральная, пачалася, толькі калі будаўніцтва даручылі муніцыпальнай кампаніі «Бізнэс-цэнтр «Сталіца».

**Фактычны ўласнік** — Мінгарвыканкам
**Змяшчальнасць** — 234 нумары
**Самы танны нумар** — $180
**Самы дарагі нумар** — $798

**Ягор Марціновіч**



# Серж Бандарчук адкрыў прыватны цырк



Алекс Гертнер і яго сын Джозэф. Алекс і яго брат Крысціян — цыркачы ў пятым пакаленні. У Беларусь яны прыехалі з індыйскімі сланамі Лакшмі, Тычам і Бэйбі.

Неўзабаве ў Беларусі запрацуе новы цырк-шапіто былога галоўнага рэжысёра «Белдзяржцыркa» Сержа Бандарчука.

Летась маці Сержа і дырэктар «Белдзяржцырка» Таццяна Бандарчук была звоненая з пасады праз карупцыйны скандал. Серж таксама пакінуў дзяржаўны цырк і стварыў свой атракцыён з беларускай назвай «Дзіва». Цяпер цырк месціцца на тэрыторыі парку «Дрымлэнд» ля скрыжавання вуліцы Арлоўскай і праспекта Пераможцаў — зусім побач з Драздамі.

«У нас будзе міжнародная праграма з трынаццаці нумароў. Гледачы змогуць пабачыць італьянскага заклінальніка змеяў Бруна Мэджыалара. Ён, дарэчы, прэзентуе і шоу павукоў-мясаедаў. Я, хоць і працую ў цырку столькі гадоў, ніколі не бачыў нічога падобнага.

Таксама ў нас будзе выступаць сям'я Герэра з Іспаніі: клоўн Марка і яго дзеці Мішэль і Жаклін. Разам яны будуць паказваць акрабатычныя нумары. Трыа Шаўчэнкаў з Беларусі будзе працаваць у вельмі складаным і небяспечным жанры «руская палка». Яшчэ адна фішка нашага цырка — кубінскі балет. Я буду працаваць з поні. Аднак гвалтам праграмы стане атракцыён з трыма сланамі братоў Гертнераў з Германіі», — расказаў Бандарчук.

Серж кажа, што былі і праблемы: «Трэба столькі ўсяго ўзгадніць, зрабіць рэгістрацыю для замежных артыстаў... Вось, напрыклад, кубінкі гавораць толькі па-іспанску — трэба вырашаць пытанне камунікацыі. Аднак мы змагаемся. Мы ж беларусы, мы ўсё можам».

Цырк дасць свой першы выступ 7 мая. Да 16 чэрвеня «Дзіва» можна наведаць у Мінску. Пасля гэтага ён будзе гастраляваць па рэгіёнах: у Магілёве, Оршы, Наваполацку, Гродне, Брэсце. Квіткі на прадстаўленне каштуюць ад 80 да 210 тысяч.

**Кірыла Хілько, фота аўтара**

# Ці варта баяцца польскіх яблык Гала?

Партыю **польскіх яблык** канфіскавалі з крамаў у Швецыі.

У гатунку Gala выявілі высокатаксічнае рэчыва дыметаат. Польская кампанія, якая паставіла іх у Скандынавію, прадала таксама амаль 30 тон яблыкаў Беларусі і Расіі. Гэтыя яблыкі можна знайсці ў вольным продажы на тэрыторыі нашай краіны.

Як выглядае сорт Gala (Галя, Гала)? Гэта чырванабокія, не пляскатыя, а круглыя яблыкі з даволі выразнымі



чырванаватымі палоскамі.

Яны не познавосеньскія, таму цяпер ужо спелыя і пераспелыя. Праблема ў тым, што сорт «Гала» (новазеландскай селекцыі, дарэчы) мае шмат падвідаў і мутантаў, трохі чырванейшых ці бялейшых. Але ўсе яны захоўваюць у нейкай ступені асноўныя прыкметы.

Ці варта баяцца іншых магазінных яблык, польскіх і няпольскіх? Рыхтык у той ступені, у якой увогуле баіцеся крамных прадуктаў.

Нават у беларускіх прамысловых садах яблыні пырскаюць пестыцыдамі да 10 разоў за сезон. Але лічыцца, што гэта не шкодзіць чалавеку, бо атрута выветрываецца. Вядома ж, у сваім садзе яблыкі лепшыя.

**Сяргей Гезгала**

# У 28 гадоў памёр актывіст АГП Антон Баркетаў



У ноч на 7 красавіка ў шпіталі памёр актывіст АГП Антон Баркетаў, паведаміў «Нашай Ніве» ягоны сябра і аднапартыец Антось Жылко.

Баркетаву было 28 гадоў. У яго былі праблемы з падстраўнікавай залозай, панкрэатыт. Перад гэтым хлопец таксама доўга ляжаў у шпіталі.

25 сакавіка Баркетаў выйшаў на Дзень Волі з амерыканскім сцягам. Сваю пазіцыю ён патлумачыў так: «Хацеў бы выказаць салідарнасць з беларускім героем Тадэвушам Касцюшкам, які служыў у амерыканскай арміі і ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць гэтай краіны. Па-другое, хацеў выказаць падзяку ЗША за непрымірымую пазіцыю адносна дыктатуры ў Беларусі і ўварвання расіян у Крым».

**ЗП**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Без віны свінаватыя

Сярод бясконцых пырскаў навін пра тое, што дзеецца ва Украіне, аднекуль збоку незаўважнай кропелькай даляцела інфармацыя пра таміфлю.

Для тых, хто не памятае, што гэта, нагадаю — адзіны паратунак ад свінога грыпу. Для тых, хто забыўся на свіны грып, нагадаю — гэта хвароба, ад якой паратунку няма.

Акрамя таміфлю.

Паведамленне, што прамільгнула колькі дзён таму, было вельмі суцяшальнае — ніякі не паратунак тое самае таміфлю. Нават шкодзіць. У лепшым выпадку плацэба, так бы мовіць, пустышка, разлічаная на дурняў.

Калі так, то гадоў пяць таму ў дурнях апынуўся ці не ўвесь свет.

Мо акрамя егіпцянаў, каторыя, як толькі гэтая пошасць — свіны грып — паказала сябе ашаломленаму чалавецтву, зарэзалі ўсіх сваіх свіней, ажно 250 тысяч галоў. Зарэзалі, зрэшты, не зусім дакладнае вызначэнне. Яны іх «...забівалі жалезнымі прутамі і яшчэ жывых зграбалі каўшамі бульдозераў...» Што праўда, ад грыпу гэта не выратавала, але са скваркай у хрысціянскай частцы егіпецкага насельніцтва відавочна з'явіліся праблемы...

Праблема скваркі, наколькі я дасведчаны, нам пры свіным грыпе не пагражала. Не пагражае і зараз, калі грыпу няма. Пагражае, хутчэй, адсутнасць гэтай праблемы: «вертыкаль» проста абрынецца без штодзённага пра нашу скварку клопату, а разгублены электарат забудзецца на тое, за каго трэба галасаваць.

Зрэшты, пакінем змрочныя футуралагічныя здагадкі і вернемся да лекаў з жыццесцвярджальнай назвай «Таміфлю». Якое ж было грамадскае ўзрушэнне — пошук усёмагутнага «Таміфлю»! Хто з-за мяжы, хто з чорнага хода... Адно слова — эпідэмія!

Эпідэмія страху.

Суседка па пад'ездзе, што па нейкіх неадкладных справах апынулася ў Польшчы, набыла ў першай, на якую натрапіла, аптэцы ажно тры ўпакоўкі — па колькасці яе малых дзяцей.

Дзяржава наша таксама разлічыла тады колькасць упаковак: набыла іх якраз столькі, каб адным пашанцавала не памерці, а іншым — памерці не ад грыпу.

Справядлівасць выбару паміж жыццём і смерцю гарантавалася гербавай пячаткай і трыма паважнымі подпісамі на рэцэптах, што выдаваліся ў выключных выпадках, — вось ён, сапраўды дзяржаўны, «жастачайшы» падыход! Ніякай панікі, ніякіх чэргаў у аптэках, ніякага дэфіцыту... Гэта пры савецкай уладзе быў дэфіцыт, на якім яна доўга трымалася, пакуль ад яго ж не абрынулася. Сёння ж на «няма» — і дэфіцыту няма.

## Матулі ва ўсіх краінах аднолькавыя, а вось дзяржавы розныя

У Польшчы, праўда, калі верыць прадбачлівай матулі, дэфіцыту таксама няма. Любыя лекі можна набыць свабодна. А калі па рэцэпце, то выключна з прынцыпу «не нашкодзь»...

У чым, аднак, розніца? У тым, думаю, што матулі ва ўсіх краінах аднолькавыя, а дзяржавы розныя. Адны клапоцяцца пра здароўе сваіх грамадзян, каб кожны, крый божа, не чхнуў. Іншыя — пра «стабільнасць», на карані вынішчаючы любы падазроны чых. У адных можна жыць вольна, хоць з рэцэптам, хоць без. У іншых — толькі па рэцэпце з гербавай пячаткай. А калі без рэцэпта, то выходзіць не жыццё, а проста свінства паміж людзьмі...

«Свіння! — раўла адна маладая жанчына другой, расчырванелая ад крыўды і злосці. — Гэта мая ўпакоўка! Я раней!»

Яны стаялі ў розных чэргах да двух акенцаў, пакуль у адным не скончыўся, а ў іншым не аказаўся апошнім безрэцэптурны, так бы мовіць, «Арпетол» — яшчэ адзін нібыта паратунак. «Свіння! — раўла адна жанчына, пакуль іншая моўчкі забірала свой «Арпетол». — Аддай! Я раней! У мяне дзіця інвалід!» І заплакала, мармычучы праклёны ўслед шчаслівай уладальніцы апошняга «Арпетолу».

Чарга, да таго моманту змрочна безуважная, таксама ўзбудзілася праклёнамі — хто на адрас чыноўнікаў ад медыцыны, што не забяспечылі, хто на адрас бізнэсоўцаў ад фармацэўтыкі, што ўзбагаціліся...

А я згадаў свой даўні дзіцячы плач.

...Мінск, ранішнія прыцемкі, канец снежня 1945 года. Мне ўжо чатыры, пайшоў пяты. Мяне падклікае да сябе муж сястры, я запіхваю ногі ў валёнкі, ледзь пападаю ў рукавы шубкі, матаю галавой у супраціве вязанай жаночай хусце, што туга зацягнута крыж-накрыж пад пахамі. Муж сястры нацягвае скураныя боты, накідвае шынель, мы выходзім у двор і, слізгаючы па абледзянелай сцежцы паміж блакітнаватымі сумётамі, ідзём да дашчанае дрывотні, да хлеўчыка, дзе рохкае свіння. Я яшчэ не ведаю, але ўжо адчуваю, што мы ідзём яе забіваць. Але яшчэ болей адчувае гэта свіння: муж сястры толькі поркаецца з замком і ключамі, а віск ужо страшэнны... Ён забіў яе адным стрэлам з пісталета, я добра памятаю, як дымілася чорная дзірачка каля вуха...

Дарослыя супакоілі мяне толькі тым, што паміраць ад голаду страшней, чым забіваць. Такі быў прапанаваны выбар.

Цяпер памерці ад грыпу страшней, чым жыць па рэцэпце з гербам. Такі цяпер прапанаваны выбар. Па сутнасці, аніякі.

Што праўда, ёсць яшчэ выбар паміж жыццём па-свінску і па-людску.

Але гэта той выбар, які мы павінны зрабіць самі.

**P.S.** Сярод розных навукова-папулярных звестак пра свіны грып я нечакана выявіў такую: «...свінні, мажліва, былі інфіцыраваныя вірусам чалавека...»

Першы прыватны **мультыкамфортны дом** прайшоў выпрабаванне зімовымі маразамі.

# Як плаціць 300 тысяч за «камуналку» ў вялізным катэджы

Мультыкамфортны дом — канцэпцыя пабудоў, распрацаваная канцэрнам «Сэн-Габэн», вытворцам будаўнічых матэрыялаў з Еўрасаюза.

Асновай для мультыкамфортнага дома стаў «пасіўны» дом — распрацаванае ў пачатку 1990-х гадоў у Германіі жыллё з мінімальным спажываннем энергіі.

Ідэю будаўніцтва такога дома распрацаваў 4 гады таму архітэктар Аляксандр Кучаравы, а збудаваць пілотны катэдж плошчай 188 м² у Дзяржынску вырашыў Аляксей Тарнагурскі. Да яго далучыўся «Сэн-Габэн», беларуская арганізацыя «Цэнтр экалагічных рашэнняў» і кампанія «Велюкс», якая распрацоўвае і вырабляе мансардныя вокны.

«Мы будуем дом не для таго, каб ашчаджаць расійскую нафту і газ, а для камфортнага пражывання, — тлумачыць архітэктар Аляксандр Кучаравы. — Да яго адносіцца якасць паветра, натуральнае асвятленне, акустыка дома, бяспека і даўгавечнасць. Але і энергаэфектыўнасць таксама. Гэты параметр мы апрыёры выканалі, атрымаўшы ў выніку дом класа «А+» энергаспажывання, што на дадзены момант у тры разы пераўзыходзіць беларускія будаўнічыя нарматывы».

Вышыня столі ў гасцёўні — 9 метраў. Архітэктар мог бы зрабіць яшчэ адзін пакой на другім паверсе, аднак замест гэтага была пабудавана невялікая тэраса. Яна дазваляе «кіраванаму скразняку» прадзімаць дом.

Свежасць паветра ў доме падтрымлівае камп'ютарная сістэма маніторынгу, якая сочыць за ўсімі паказчыкамі ўнутранага асяроддзя, у тым ліку за ўтрыманнем вуглякіслага газу. Калі канцэнтрацыя вуглякіслага газу дасягае 750 праміле, дом праветрываецца праз аўтаматычныя мансардныя вокны.


Мультыкамфортны дом у Дзяржынску.

Гаспадар дома Аляксей Тарнагурскі з дачкой.


Архітэктар Аляксандр Кучаравы.


Гасцёўня, сумешчаная з кухняй. Акрамя яе ў доме яшчэ тры жылыя пакоі.


Спальня гаспадароў. Кожны пакой абсталяваны асобным санвузлом.

Усталёўка сістэмы такіх вокнаў робіць кандыцыянер непатрэбным. Сістэма «кіраванай продзьмы» адчыняе мансардныя вокны на паўночным і паўднёвым баку дома, што эфектыўна зніжае тэмпературу ўнутры памяшканняў і прыносіць свежае паветра, чаго не робяць спліт-сістэмы кандыцыянераў.

Узімку за абагрэў адказвае газавы кацёл. Дзякуючы заяўленай распрацоўшчыкамі амаль абсалютнай герметычнасці памяшкання, за тры месяцы ацяплення (праўда, зіма была выключна мяккая) дому Тарнагурскага спатрэбілася ўсяго 600 м³ газу для ацяплення, у той час як звычайнаму дому аналагічнай плошчы неабходна каля тысячы кубаметраў газу. Уладальнік кажа, што тэмпература сценаў дома адрозніваецца ад тэмпературы паветра толькі на адзін градус.

Таксама ўзімку працуе сістэма рэкуперацыі паветра. Спецыяльная ўстаноўка забірае свежае халоднае паветра звонку, аднак перад падачай у жылыя пакоі халоднае паветра награецца адпрацаваным цёплым паветрам з дома, але дзве паветраныя плыні не змешваюцца.

«Мы паставілі беларускую сістэму рэкуперацыі і вельмі задаволеныя вынікам. Пры вонкавай тэмпературы +25°C і тэмпературы +24°C унутры паветра праграецца ўстаноўкай рэкуперацыі да +22°C», — дзеліцца назіраннямі Аляксей.

Уладальнік сцвярджае, што за «камуналку» ў сваім катэджы ў зімовы перыяд ён плаціў 22 еўра — прыкладна ў столькі абыходзіцца ўтрыманне звычайнай двухпакаёвай кватэры.

«Важнай задачай была арыентацыя пабудовы ў прасторы, — тлумачыць Кучаравы. — Гэты дом функцыянальна арыентаваны на чатыры бакі свету. Паўднёвы бок займае самы вялікі пакой, дзе сям'я бавіць найбольш часу, — гасцёўня».

Праз вялізнае акно ў дом пранікае сонечнае святло. Улетку ад яго абараняюць ралеты, а ўзімку яно робіць буйны ўнёсак у ацяпленне дома. Каб яшчэ сусед Аляксея пабудаваў тое, што ўзгадніў з чыноўнікамі, інсаляцыя гасцёўні была б большай.

На паўночным баку размешчаны тэхнічныя пакоі і пакоі кароткачасовага прабывання — санвузлы, гардэробныя. Яны ствараюць буферную зону. Па ўсходнім і заходнім баках знаходзяцца спальні».

Канструкцыя катэджа даволі простая. Гэта драўляны каркасны дом, прычым дрэва куплялі ў найбліжэйшым лясгасе. Аднак для азадаблення выкарыстоўваліся найноўшыя матэрыялы і тэхналогіі. Мультыкамфортны дом уцеплены экалагічна чыстай і бяспечнай для чалавека шклаватай — яе валокны могуць раскладацца арганізмам і выводзіцца з яго. Таксама ў гэтай шклаваце пайменшана ўтрыманне фармальдэгіду. Пры будаўніцтве выкарыстоўваліся адмысловыя кліматычныя мембраны, а сам дом праходзіў тэст павышаным унутраным ціскам, каб выявіць негерметычныя месцы.

Дом яшчэ не дабудаваны цалкам. Кіраванне сістэмамі дома пакуль працуе ў паўаўтаматычным рэжыме: інфармацыя выводзіцца на маніторы, але адчыняць і зачыняць вокны і ралеты пакуль даводзіцца пультамі. Неўзабаве ўсе сістэмы падлучаць да камп'ютара, і яны стануць цалкам аўтаномныя.

Але ў планах Аляксея зрабіць свой дом актыўным: паставіць на даху воданагравальныя і вадазборныя элементы, бо, паводле падлікаў архітэктара, вады, сабранай з даху, хопіць на забеспячэнне дома. Захоўваць ваду можна будзе ў падземным рэзервуары.

Сонечныя фотаэлементы і ветрак забяспечаць дом электрычнасцю. Больш за тое, электраэнергію можна будзе прадаваць і зарабляць да 500 еўра ў год.

Будаўніцтва мультыкамфортнага дома «пад ключ» каштавала $2000 за м². Тарнагурскі ўпэўнены, што такія дамы беларусы змогуць пабудаваць сабе нават за меншыя грошы.

Рэч у тым, што на сваім доме Аляксей «абкатваў» канструкцыяванне і будаўніцтва падобных дамоў. Тарнагурскі валодае кампаніяй «Сучасны каркасны дом» і цяпер займаецца распрацоўкай модульных мультыкамфортных дамоў.

«Мінімальная плошча модульнага дома — 40 м². Далей замоўца зможа кампанаваць гатовыя распрацаваныя модулі. Яны будуць вырабляцца цягам некалькіх месяцаў, а збірацца цягам некалькіх дзён. Пры гэтым дом будзе валодаць усімі рысамі мультыкамфортнага пасіўнага дома з класам энергаспажывання «А»», — кажа ён.

Паводле Тарнагурскага, прыблізны кошт будаўніцтва такога дома «пад ключ» складзе $1500 за м².

Кірыла Хілько, фоты аўтара

# Не тых саджаюць

Піша **Мікола Бугай**.

Перыядычна ў краіне здымаюць чыноўнікаў. Гучна здымаюць! «Зусім абнаглелі!» — не раз казаў кіраўнік дзяржавы.
Але ўзнікае пытанне. А хто іх прызначаў? Калі аднаго за адным, аднаго за адным арыштоўваюць старшынь выканкамаў і іх наменнікаў, кіраўнікоў канцэрнаў, суддзяў, намесніка міністра ўнутраных спраў (!!), намесніка генеральнага пракурора (!!!), на каго тады ківаць?
Якая ж гэта эліта, калі яе садзяць, садзяць і ўсё не могуць перасадзіць. Бандзюкі! «Каб жыць весела, у шчасці, трэба красці, красці, красці».
Можа быць, не на той кадравы рэзерв абапіраецца той, хто прызначае? Можа быць, у іншым месцы трэба шукаць кадры? Прафесар Багданкевіч спыніў гіперінфляцыю ў 1990-я. Ён здолеў бы вярнуць давер да рубля зноў. Бо сорамна за дзяржаву — за 5 гадоў рубель знясцэніўся ў 5 разоў.
Павел Данэйка стварыў тры паспяховыя бізнэс-школы. Можа, ён і стаў бы паспяховым прэм'ерам, аўтарам эканамічнага рыўка?
Народная артыстка Бандарэнка зрабіла б тэлебачанне паважаным.
Жанна Літвіна — пры ёй дзяржаўныя СМІ з кармушак ператварыліся б у сродкі інфармацыі.
Лявон Баршчэўскі — такі чалавек у Адміністрацыі прэзідэнта паставіў бы заслону тупасцям у сістэме адукацыі, ад якіх ужо млосна робіцца і бацькам, і педагогам.
Бяляцкі — яму месца не ў турме, а на пасадзе амбудсмена! Ідэальны быў бы «народны абаронца».
А Дашкевіч? Дай яму дзясятую, не, дваццатую частку тых сродкаў, якія «асвойвае» БРСМ, — і колькасць наркаманаў у маладзёжным асяроддзі зменшыцца ўдвая.
Не тых саджаюць. І не туды саджаюць.

# Мой першы раз па-беларуску

Пятнаццаць гадоў таму мае адносіны з роднай мовай… Скажам праўду, не было ў мяне ніякіх адносін з роднай мовай пятнаццаць гадоў таму. Не, я, канечне, прызнавала ва ўсіх перапісах роднай мовай беларускую, абавязкова пісала ў анкетах — маўляў, ведаю. Яшчэ я зрэдку перачытвала любімага Багдановіча і памятала, што Быкаў і Караткевіч — гэта сапраўды крута. Маёй сяброўцы падалося, што гэтага дастаткова.
«Слухай, тутака адна знаёмая шукае рэпетытара для дачкі па мове» — «Эээ-эээ…» — «Шосты клас, дзяўчынка». — «Ннууу». — «Пяць даляраў за 45 хвілін, а яна яшчэ думае!»
А пяць даляраў, скажу я вам, пятнаццаць год таму былі грошы.
І я пагадзілася.
Увесь тыдзень да першага занятку я запіхвала ў галаву родную мову. Я прачытала два тамы Быкава і тры — Караткевіча. Вывучыла на памяць аповед Змітрака Бядулі пад сакраментальнай назвай «Пяць лыжак заціркі». Прачытала перад люстэркам паэму Купалы «Бандароўна», каб замацаваць акцэнт. Мова ў галаву ўваходзіла, але назад не выходзіла. Калі я адчыняла свае рускамоўныя вусны, з іх вылятала толькі нешта кшталту «эээ… менавіта… менавіта нешта… добры дзень… да пабачэння… дзверы зачыняюцца… дзякуй за ўвагу».
Я здабыла ў школьнай бібліятэцы падручнік белмовы для шостага класа, перагартала яго з першай старонкі да апошняй, а потым і ў адваротным парадку, і паехала да дзяўчынкі.
«Ну, — бадзёра пачала я занятак, — сёння мы з табой пазнаёмімся і распавядзем адно аднаму, што мы ведаем пра беларускую мову! Дарэчы, «пазнаёмімся» — гэта якая часціна мовы?»
Мне падалося, што такі вытанчаны пераход ад балбатні да лінгвістыкі створыць атмасферу крэатыву і супрацоўніцтва. Але вучаніца так не лічыла. Яна глядзела на мяне вялікімі вачамі.
— Ну? Не памятаеш? А на якое пытанне адказвае? Што зробім? Пазнаёмімся! Канечне — глагол!
Дзяўчынку перасмыкнула. Мне таксама зрабілася няёмка. Здаецца, гэта гучала не вельмі па-беларуску… Глагол…
— Так, Наста, запішам: паўтарыць часціны мовы!
Наста паслухмяна пачала пісаць.
Раптам яна падняла галаву і запытала ціхім голасам:
— А нам задалі… Гэта… Ну… Ну гэта… «па-за домам»… «па-за» — гэта якая часціна мовы?
Я скамянела. Па-за… Па-за… Божачкі ж мае…
— А вось якраз і… (мне хацелася сказаць — «выяснішь», але ж таксама забылася, як гэта будзе па-беларуску)… якраз і… якраз і… ну, гэта самае! Паўтарыш! Паўтарыш…
Нейкі паўтарыш заскокаў па пакоі. На галаве гэтага паўтарыша калыхаўся рудзь віхор, ён пазіраў на мяне з гарэзлівай усмешкай і круціў пальцам ля скроні. У гэты момант я вырашыла грошай за першы занятак не браць.
— Ну, Наста, а зараз пабачым, як ты памятаеш знакі прыпынку!
Наста змрочна нахілілася над сшыткам.
— Запісвай! Эээээ…. Эээээ….
Разумееце, я, настаўніца рускай мовы, прызвычаілася прыклады для разбору прыдумваць адразу, арыентуючыся на ход урока і патрэбы вучняў. Гэтыя мае рускія прыклады заўсёды былі цікавымі, вясёлымі і актуальнымі для аўдыторыі. Але ж у выпадку з беларускай мовай я забылася, што мне банальна не хопіць слоўнікавага запасу!
— Эээээ… Запісвай, Настачка…
Я зрабіла апошнія высілкі, напружылася, заплюшчыла вочы і пальнула:
— Нечаканае «хэндэ-хох» прымусіла партызана выйсці з-за кустоў!
Наста падняла на мяне вочы.
— Пішы, Настачка! Нечаканае… хэндэ-хох…. прымусіла…. Дарэчы, «прымусіла» — якая часціна мовы?
Наста навалілася на стол і прастагнала:
— Глагол?

* * *

Да Насты я больш не хадзіла. Збіраючы свае рэчы пасля занятку, я была амаль у непрытомнасці і тама забылася на стале ў дзяўчынкі і бібліятэчны падручнік белмовы, і навюткі нататнічак, прыдбаны спецыяльна для запісу вынікаў вучобы маёй вучаніцы…
Пяць гадоў я не брала ў рукі ані Быкава, ані Караткевіча, ані любімага Багдановіча — мне было сорамна. З суразмоўцамі, што прамаўлялі па-беларуску, сціскала вусны і пераходзіла на мову жэстаў і смайлікаў.
А потым аднойчы мне спатрэбілася напісаць нешта «гэткае» дачцэ на конкурс сачыненняў пра бабуль і дзядуль, пра старадаўнія часы і дняпроўскія краявіды. Я ўзяла аркушык, села за стол…
І раптам нешта зрабілася: на паперу паліліся і Быкаў з Караткевічам, і Багдановіч, і нават «Пяць лыжак заціркі»… Словы выскоквалі з мяне, як той партызан з-за кустоў, самі сабою, без усялякіх высілкаў. Я пісала па-беларуску! Словы самі сабой узнікалі і складаліся ў сказы.
Так мова прыйшла да мяне.

**Ганна Севярынец, Мінск**

## Ва Украіне ўсё не так

Быў я ва Украіне цэлы тыдзень. І пабачанае мяне шакавала. Лепш адзін раз пабачыць, як кажуць. Думаеце, я бачыў натоўпы бандэраўцаў? Думаеце, Правы сектар канфіскуе ўсё? Сябры, зусім наадварот. Раней Кіеў нагадваў еўрапейскі горад. А цяпер ён стаў яшчэ больш еўрапейскім: чыстыя вуліцы, запоўненыя рэстараны. Па вечарах горад зззяе. Заробак плацяць своечасова, хоць цэны, канечне, крыху выраслі, бо грыўня ўпала. Але нам, беларусам, стала нават крыху выгадней.
Гэта жыццё, а што з палітыкай? Расія знаходзіцца ў эйфарыі і не разумее, што пачала вайну. А ўкраінцы якраз разумеюць гэта і рыхтуюцца абараняць сябе.

**Зміцер Лашанкоў, Gmail.com**

Так бачыць паэт

## Проста бежанец

Брэшаце: не грэбую Радзімай.
Проста, ў мегаполісе лягчэй.
Ад дзяржавы — «любай і адзінай» —
Дурань да «буржуя» не ўцячэ...
Проста, калі ўзяць заробак чысты
І павагу да працаўніка,
То, паверце, у капіталіста
Тут нашмат лягчэйшая рука...
Не для той кар'еры прагнуў росту,
Шанаваў правіцыю сваю...
Выбачайце: бежанец я проста —
Ад таго нявесела пяю...

**Рыгор Шэрда**



Так выглядала дарога раней.

**Дурні!**

**У вёсцы Самуэлева за 20 км ад Мінска высеклі кляновую алею, пасаджаную ў свой час у маёнтку графа Чапскага.**

Так выглядае дарога цяпер.

# Зінаіда Бандарэнка: **Я ўвесь час адчувала сябе маладой**

**25 красавіка 75-годдзе адзначае самая вядомая беларуская тэлезорка, дыктарка, народная артыстка Беларусі — Зінаіда Бандарэнка.**

Яе любілі, ёю захапляліся, ёй прысвячалі вершы, яе голас чуў кожны. Праз свае патрыятычныя погляды і абарону ўсяго беларускага Зінаіда Бандарэнка была вымушана пакінуць тэлебачанне. «НН» пагутарыла са спн. Зінаідай пра яе цікавае, разнастайнае жыццё і тое, што здараецца з усенароднымі ўлюбёнцамі.

### Падводжу вынікі

Настрой светлы, падводжу вынікі свайго жыцця. Але я ніколі не шкадавала, што не памяняла сваёй пазіцыі, не адмовілася ад сумлення. Магчыма, калі б дзесьці прамаўчала, то і дагэтуль працавала дыктаркай, але, як кажуць, «два разы ў адну рэчку не ўвойдзеш».

### Абдымаў Лукашэнка

Аднойчы на «Дажынках» мяне абдымаў Лукашэнка. Гэты здымак абышоў усе апазіцыйныя СМІ. Тады ён сказаў, што хоча, каб усе дзяўчыны былі такія ж прыгожыя, як я. Было смешна.

### Праца

Я не проста любіла сваю працу я жыла ёй. Яна ніколі мне не надакучвала, я кожны дзень ляцела на яе. А цяпер мяне нібыта выкраслілі з гісторыі беларускага тэлебачання. Перыяд ад 1963 года выпаў з гісторыі, яго сцерлі, бо там увесь гэты час была я.

### Вялікія псіхолагі

Я адразу адчула славу. З самага пачатку я адчувала, што людзі мяне любяць. Так атрымалася, што я маю харызму ад прыроды. На мой погляд, той, хто не валодае тэлевізійнай харызмай, наўрад ці здолее працаваць на тэлебачанні. Тэлевядоўцы — вялікія псіхолагі, якія могуць праграмаваць тысячы людзей. І мы карысталіся гэтым. Не магу сказаць, што камуністычная ўлада гэтым не карысталася. Калі я стала кіраўніком дыктарскага аддзела, мне казалі, каго падбіраць. Звычайна гэта былі знешне тыповыя беларускі, гэта цяпер на тэлебачанні і мулаткі, і афраамерыканкі.

### Беларуская Мадонна

Я памятаю той час, калі Павел Якубовіч, цяперашні галоўны рэдактар «Советской Белоруссии», ездзіў з намі на канцэрты і пісаў пра іх у «Знамя юности». Аднойчы, пасля чарговага выезду, муж паказаў газету, дзе Якубовіч назваў мяне «Беларускай Мадоннай». Зараз, калі сустракаемся выпадкова, усміхаемся адно аднаму і хутка ідзём далей.

### Лукашэнка і беларуская мова

Гісторыя майго сыходу з тэлебачання пачалася з падзеі, калі Лукашэнка прыйшоў да нас на тэлебачанне аддзячыць журналістам за тое, што яны дапамаглі прайсці яму на другі тэрмін. На беларускай мове выступіла я. Выступ быў нейтральны, але ён успрыняў беларускую мову даволі неадназначна. Быў абураны тым, што мы чапляемся да яго з «гэтай беларускай мовай». Пасля сказаў, што я карыстаюся ёй для іміджу і за гэта мяне любіць народ. А далей пачаліся праблемы.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Зінаіда Бандарэнка**
Нарадзілася 25 красавіка 1939 у Мінску. Самыя вядомая дыктарка Беларускага тэлебачання. Народная артыстка Беларусі (1985).

### Курсы ад Познера

У свой час я вельмі часта лётала ў Маскву. Цэнтральнае тэлебачанне моцна клапацілася пра сваіх журналістаў. Мы стабільна разы два на год на некалькі месяцаў ездзілі на курсы падвышэння кваліфікацыі. Пасля гэтыя курсы ператварыліся ў Інстытут падвышэння кваліфікацыі, які арганізаваў Уладзімір Познер, зараз гэта ўжо Акадэмія Познера.

### Па-беларуску ў Кіеве

Аднойчы я вяла Дні беларускай культуры ў Кіеве. Прыехала шмат калектываў з Беларусі. Калі я аб'явіла на беларускай мове наступны калектыў, да мяне нечакана падбег загадчык упраўлення міністэрства культуры і з лаянкай накінуўся: «Хто даў вам права размаўляць па-беларуску? Тут у зале людзі з Масквы». Ён так прыніжаўся перад імі. І тут я нечакана заплакала. Але за мяне заступілася калега-ўкраінка. І ў выніку я працягнула весці праграму па-беларуску. Пасля прыйшла да высновы, што людзі ўсё разумеюць і слухаюць нашу мову з захапленнем.

### Бураўкін

У нас на тэлебачанні працавала вельмі шмат сапраўдных беларусаў па духу. Асабліва з прыходам Бураўкіна тэлебачанне стала беларускім. Гэта было ягонае патрабаванне. Працэс быў цяжкім, некаторыя кабеты ў знак пратэсту і атручваліся, і невядома што рабілі, але пасля прынялі яго.

### Выжыванне

Мае былыя калегі расказваюць мне пра жудасныя адносіны між супрацоўнікамі нашага тэлебачання. Адзін аднаго проста выжываюць. Адзіны варыянт — зрабіць усё, каб застацца каля «цела». Перамагае той, хто да яго бліжэй.

### «Белсат»

Я сачу за нашымі журналістамі, асабліва тымі, што працуюць на «Белсаце». Калі я бачу хібы, я адразу званю ў Варшаву і імкнуся дапамагчы парадай.

### Асветнікі і прапагандысты

Тады журналісты і вядоўцы былі асветнікамі, гэта зараз яны сталі проста прапагандыстамі.

### Разумныя твары

Калі вы кажаце нешта па тэлебачанні, заклікаеце людзей да чагосьці, то рабіце гэта хаця б з разумным тварам.

### Артыстка

У школе я ўжо з 4 класа была актыўнай удзельніцай мастацкай самадзейнасці. То танчыла, то вершы чытала і дэкламавала творы, пазней быў драматычны гурток. У школе нават мянушка была — Артыстка.

### Медык

Пасля 10 класа мне давялося вучыцца ў медычнай вучэльні. Тата мой быў доктарам па сухотах і хацеў, каб я трымала сваё здароўе пад кантролем. Аднойчы так здарылася, што ў мяне выявілі пачатковую стадыю туберкулёзу. Але я хутка ачуняла.

### Астравумаў

Пасля вучэльні па плане я павінна была спрабаваць паступіць у медуніверсітэт. Але падчас вучобы ў вучэльні я пазнаёмілася з чалавекам, які адыграў вялікую ролю ў маім жыцці, — маім першым педагогам Сяргеем Паўлавічам Астравумавым. Ён быў мастацкім кіраўніком тэатральнай студыі і мастацкім кіраўніком Гомельскай студыі тэлебачання. Калі на Гомельскім тэлебачанні былі аб'яўлены конкурс дыктараў, Сяргей Паўлавіч параіў мне паспрабаваць свае сілы. І я прайшла, хаця конкурс быў вялікі. З медыцынай давялося развітацца. Паступіла ў гомельскі педінстытут на аддзяленне беларускай філалогіі. Пасля атрымалася так, што мяне заўважылі ў Мінску і запрасілі на працу.

### Бацькі

Мае бацькі вельмі моцна кахалі адно аднаго. Але так здарылася, што вайна іх разлучыла. У першыя дні вайны, калі немцы бамбілі Мінск, тата амаль увесь час быў у шпіталі. А я з мамай і старэйшым братам былі дома, у інтэрнаце Мединстытута на Ленінградскай. І вось 24 чэрвеня да нас прыбягае медсястра і кажа, што ў шпіталь трапіла нямецкая авіяцыйная бомба і ўсе загінулі. Хаця на самай справе бомба не ўзарвалася, і тата застаўся жывы. Але ж мы не ведалі, трэба было эвакуявацца. Пешшу мы пайшлі да родных у Гомель. Ішлі амаль месяц і толькі ноччу, днём хаваліся ў хмызняку. Спачатку зайшлі ў Бабруйск, матуля разлічвала, што адтуль мы трапім у Маскву, бо там шмат сваякоў жыло. Але на той момант у Маскву ўжо не пускалі. Масква людзей не прымала. Можна было проста звар'яцець. Таму мы рушылі на Гомель. А бацька перад эвакуацыяй забег дамоў, але замест інтэрната была варонка, на гэты раз бомба, якая ляцела, узарвалася. Тата вырашыў, што мы загінулі. Пасля вайны, калі высветлілася, што мы ўсе засталіся жывыя, у таты ўжо была іншая сям'я. Мы сустракаліся, падтрымлівалі добрыя адносіны, нават сябравалі сем'ямі. Але матуля так і не змагла яму прабачыць.

### Муж

З мужам сустрэлася ў Гомелі, калі яшчэ грала ў Палацы чыгуначнікаў. Пабачыў ён мяне і захапіўся. Але ў той вечар не падышоў. Увесь час сачыў за маімі поспехамі. І вось аднойчы ў адной з крамаў ён дапамог маленькай дзяўчынцы набраць нумар на таксафоне, яна ніяк не магла дацягнуцца. Аказалася, што дзяўчынка званіла свайму тату на тэлебачанне. Нумар мой муж запомніў і пасля набраў сам. У выніку даведаўся, дзе я жыву. Дзіўная гісторыя, пэўна, лёс існуе.

### Дабіваўся тыдзень

Муж дабіваўся мяне адзін тыдзень. Пасля я здалася, бо ён пісаў мне проста неверагодна крынальныя лісты. Пісаў кожны дзень, пакуль я была з матуляй у Тбілісі. Пасля я прыехала, і мы праз некалькі дзён распісаліся. Каханы мой адмятаў усіх прыхільнікаў. Адмятаў не толькі сяброў, але і сяброўак. Такі вось раўнівы.

### Прозвішча

Зараз я вельмі шкадую, што не ўзяла прозвішча мужа. Вось дзе дурніца! Вельмі хвалявалася я за дзяцей. Аднойчы старэйшы сын трапіў у піянерскі летнік, і ніхто яму не верыў, што я яго матуля, толькі смяяліся. Тады ён папрасіў мяне некалькі разоў прайсціся з ім па летніку, каб усе пабачылі нас разам.

### Свякроў

Кожны раз, калі я бываю ў царкве, я стаўлю свечку за сваю свякроў, яна выхавала маіх дзетак. Калі я з'язджала ў камандзіроўкі, я была спакойная за сваю сям'ю.

### Побыт

Аднойчы да нас у госці завіталі немцы, і яны былі проста ў шоку ад таго, у якіх умовах жыве народная артыстка. Я лічу, што і мэбля ў мяне нармальная і ўсё іншае таксама някепскае. Па іх словах, калі б я жыла ў іх, то мела б чатыры прыслугі, бо іх тэлезоркі жывуць вельмі багата. А я вось ім зранку то кашы, то яечню раблю, цяжка ім было ўявіць, што я народная артыстка.

### Ад старасці не збегчы

Ад старасці нікуды не збегчы. Трэба проста захоўваць прыгажосць сваёй душы, тады і вочы будуць гарэць. А мы ўвесь час чагосьці баімся, усім незадаволеныя. Я ўвесь час адчувала сябе самай маладой. Зараз узрост прымушае задумацца, што не такая ўжо маладая, але хочацца пражыць яшчэ хоць пару гадочкаў.

### Малюся за Украіну і Беларусь

Я малюся за Беларусь і Украіну штодня. Беражы нас Бог ад страшнай трагедыі страты нашых людзей. Колькі часу ў нас будзе спакойна — не вядома. Пакуль увесь удар бярэ на сябе Украіна. Але сэрца маё разрываецца.

**Запісала Вольга Гарапучык**

# Радаўніца: ад «грамулькі» да карагодаў на могілках

29 красавіка — Радаўніца. Пра беларускія традыцыі памінання продкаў расказвае фальклярыст **Таццяна Валодзіна**.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Ці праўда, што Радаўніца — унікальны беларускі абрад, якога няма нават у найбліжэйшых суседзяўславянаў?**

**Таццяна Валодзіна:** Менавіта ў беларусаў веснавыя велікодныя абрады ўшанавання памерлых атрымалі асаблівае развіццё, шматстайнасць і надзвычайную трываласць. Гэта жывая і сёння традыцыя. Што цікава: Радаўніца і ў беларусаў можа быць розная. У Беларусі ўспамін памерлых і ўшанаванне іх памяці адбываецца не абавязкова ў наступны аўторак па Вялікадні. Напрыклад, на Палессі, нават на Паўднёвай Міншчыне веснавы дзень памінання продкаў завецца Наўскім (Мёртвых) Вялікаднем і святкуецца ў чацвер — на чацвёрты дзень пасля Вялікадня. Наўі — так у старажытнасці называлі памерлых.

У некаторых мясцінах (асобныя вёскі Лагойскага, Докшыцкага, Бярозаўскага, Быхаўскага раёнаў) — на могілкі ходзяць на Вялікдзень. Хоць царква гэта не ўхваляе: у дзень Уваскрасення трэба радавацца жыццю.

Таму тое, што зрабілі аўторак выходным днём... Добра, вядома ж, што ўшанавалі даўні звычай памінання продкаў. Але тут ёсць і момант умяшання ў традыцыю народную, яе разбурэння. Ужо і ў тых рэгіёнах, дзе продкаў спрадвеку паміналі ў іншыя дні велікоднага тыдня, пачынаюць хадзіць на могілкі ў аўторак — бо выходны, многа часу, дзеці з горада прыязджаюць.

**«НН»: Звычай піць на могілках на Радаўніцу — ён спрадвечны ці прынесены?**

**ТВ:** Неабходнасць «ста грамаў» на магіле — спрэчны момант. Гэта рэгіянальна. Усходняя Беларусь — там амаль паўсюдна ёсць традыцыя выпіць на могілках гэтую «грамульку». Але звычай не новы. Раней, як на магілы яшчэ не ставілі чарак, алкаголь ліді проста пад крыж. Так усталёўваўся кантакт з памерлымі шляхам сумеснага сталавання.

**«НН»: Багацце сталоў на могілках часам уражвае.**

**ТВ:** Так, нават салат аліўе можна пабачыць. Але трэба памятаць, што Радаўніца — не банкет. Раней бралі абрадавы мінімум: чырвонае яйка, кавалак булкі і гарэлку. Акрамя булак ва Усходняй Беларусі на могілкі бралі збожжа, крупы. Іх рассыпалі там, каб частаваць душы продкаў у выглядзе птушак. Душы ў выглядзе птушак — гэта вельмі архаічнае ўяўленне.

Ідэя Радаўніцы — сумеснае з памерлымі «застолле». Яно грунтуецца на ідэі, што мы цэлае, толькі калі мы ўсе разам: і жывыя, і памерлыя. Народ, вёска, род.

**«НН»: Звычай есці на магілах можна параўнаць з паганскімі трызнамі.**

**ТВ:** У нейкім сэнсе так. Найперш у тым, што гэта памінанне без жалю. Гэта дзень яднання, успамінаў. Светлы дзень. Зусім на ўсходзе Беларусі да гэтага часу жывы прыгожы звычай: магілы засцілаюць белымі абрусамі, ручнікамі. Гэта фантастычнае відовішча: дзясяткі белых пагорачкаў, ля якіх збіраецца разам увесь вясковы люд.

Радня збіраецца каля магілы сваяка, які памёр апошнім. На засланую магілу ставяць стравы, сядаюць наўкола. Раней бралі адну чарку на ўсю вялікую сям'ю.

На Магілёўшчыне, у Чачэрскім раёне, у прыватнасці, на Радаўніцу водзяць карагоды. Карагод — гэта не абавязкова вясёлыя скокі, як мы часта сабе ўяўляем. Там людзі ідуць між магілаў, пабраўшыся за рукі, і спяваюць песню стрыманадухоўнага сэнсу, у якой вядзецца пра памінанне душы.

Сустракаецца там і звычай іграць на «пішчыках» — свістульках, зробленых з кары, — проста на могілках, калі ўласна праз гук адбывалася сімвалічнае яднанне з памерлымі.

**«НН»: Цяпер пра набліжэнне Радаўніцы ў Беларусі можна пазнаць па масавым з'яўленні на кірмашах пластыкавых кветак. Ці раней насілі на могілкі кветкі, стужачкі ці завязвалі на крыжы?**

**ТВ:** Кветкі — сучасная прыдумка. А вось стужкі, ручнікі, хвартушкі неслі ў сабе старажытную ідэю. Калісь абнову дзецям імкнуліся справіць да Вялікадня. Продкі на тым свеце, паводле народнага ўяўлення, таксама маюць патрэбу ў новай адзежы. «Не маеш абновы — хоць нітачку новую занясі завяжы — яму там абнова будзе», — тлумачыла мне бабуля ў Докшыцкім раёне.

**«НН»: Чаму Радаўніца — менавіта ў гэтыя дні? І які сэнс продкі ў яе ўкладалі?**

**ТВ:** Тут мы не ведаем напэўна, можам толькі рэканструяваць. Час веснавога раўнадзенства — гэта час, калі адкрываецца вырай. Прылятаюць птушкі, выходзяць змеі, прачынаецца мядзведзь. У раўнадзенства на зямлю вяртаюцца і душы памерлых, лічылі продкі. Але нябожчыкі могуць пабыць сярод жывых абмежаваны час. Потым яны, каб сусветная раўнавага не парушылася, мусяць вяртацца назад. Таму першая нядзеля пасля Вялікадня і называецца «праводнай» — маюцца на ўвазе дзеянні, звязаныя з выпраўленнем дзядоў назад, на той свет.

Радаўніца ўваходзіць у сістэму Дзядоў — памінання продкаў, якое адбывалася ў розных мясцовасцях ад трох да сямі разоў на год. Паміналі падчас Калядаў, Масленіцы, Саракоў, Тройцы, пасля былі Дзяды Пятроўскія, Міхайлаўскія, Піліпаўскія, Змітраўскія, Асяніны... З гэтым звязаная нават прымаўка: «Каб яшчэ адзін дзед, дык згалеў бы ўвесь свет». Бо кожны раз трэба было рабіць стол — і не абы-які.

На паганскую ідэю вяртання продкаў арганічна наклалася хрысціянская ідэя ўваскрашэння Хрыста. Увогуле, шукаць асобна паганскія элементы ў нашых звычаях — рэзаць традыцыю па жывому.

**«НН»: Цяпер на Радаўніцу нават бацюшка прыходзіць свяціць магілкі.**

**ТВ:** Звычай асвячаць магілы распаўсюджаны не паўсюль, за душы памерлых маліліся пераважна ў царкве. А галоўны сэнс Радаўніцы — гэта факт духоўнай сустрэчы з продкамі. І матэрыяльным увасабленнем гэтай сімвалічнай сустрэчы з'яўляецца застолле.

Дарэчы, якраз яго святары цяпер спрабуюць забараняць. Асабліва на ўсходзе Беларусі — там, дзе доўга не было царквы. Святар забараняе піць і есці на могілках — дык прыхаджане робяць гэта цішком, як ён сыходзіць. Цікава, што тут народнае ўяўленне канфліктуе з загадамі святара: «Бацюшка запрашчаць, дык я не паставіла чарку на магілу. У сне прыходзіць мужык і кажаць: «Ты мне ўжо сто грам пашкадавала?»

**«НН»: Ці задумваецеся Вы: што будзе пасля таго, як адыдуць апошнія носьбіты гэтай фальклорнай свядомасці? Застанецца бясконца апрацоўваць і перапісваць раней сабраны матэрыял?**

**ТВ:** Кожнай фальклорнай з'яве ўласцівая прагматыка. Абрады, спевы — усё гэта робіцца не напаказ. Няма нічога, што не было б патрэбна. Тое, у чым знікае патрэба, адмірае.

**«НН»: Вы маеце на ўвазе, што жніўныя песні цяпер не пяюць таму, што жыта больш не жнуць сярпамі?**

**ТВ:** Так. Таму спроба наноў укараняць дажынкі выглядае штучна. А вось я залетась бачыла, як у Добрушскім раёне «водзяць русалку»...

**«НН»: Якая можа быць прагматыка сёння ў «ваджэнні русалкі»?!**

**ТВ:** А вось глядзіце: год быў, калі памятаеце, вельмі сухі. Дык старыя бабулькі глядзяць на абрад і кажуць: во, павялі русалку, значыць за колькі дзён пойдзе дождж. І ён, самае цікавае, сапраўды пайшоў! А як было цікава назіраць, калі ўдзельнікі «ваджэння» — маладыя дзяўчаты, дзеці, — вывеўшы «русалку» за сяло, кінуліся і за секунду расшкамуталі яе ўбор, зроблены з травы і галінак. Кожнаму хацелася хоць галінку прынесці на свой агарод — ад мядзведкі, якая становіцца цяпер сапраўднай пошасцю.

**«НН»: Выходзіць, на змену адным фальклорным уяўленням прыходзяць іншыя. І хрысціянства нічога тут не парадзіць?**

**ТВ:** А звычай свяціць вербачку — не тое самае? Можна казаць пра прыход Хрыста ў Ерусалім, пра пальмавыя галіны, якімі яго віталі, — але хіба ў аснове абраду для шэрагу звычайных абывацеляў не ляжыць жаданне атрымаць магічную рэч? Уся наша традыцыя — суплёт паганскіх уяўленняў з хрысціянствам. На гэтым і жывём.

**Гутарыў Сяргей Мікулевіч**

**Назоў Радаўніца**

(Радуніца, Раданіца) вельмі архаічны. Няма адзінага меркавання пра яго паходжанне. Доўгі час яго этымалогію выводзілі ад «радавацца» або «род». «Род» — ясна чаму. На карысць «радаснай» тэорыі сведчыла тое, што ў хрысціянскі час Радаўніца стала «Вялікаднем памерлых»: святам, прасякнутым надзеяй на ўваскрашэнне і вечнае жыццё. Аднак многія навукоўцы лічаць такое тлумачэнне павярхоўным. Ключом да тлумачэння слова можа быць літоўскае слова raudá «плач з галашэннем» і raudinė «малітва з плачам і галашэннем». Параўнайце, як гэта падобна да славянскага «рыдання».

Абрад памінання дзядоў па Вялікадні ў нас з літоўцамі ідэнтычны. Назоў «Радаўніца» менш пашыраны на поўдзень ад Беларусі.



**Таццяна Валодзіна**

Нар. 1968, родам з Лепельшчыны. Фальклярыст, доктар філалагічных навук. Працуе ў Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук.

# Самы вялікі калумбіец

Апошні раз на публіку **Габрыэль Гарсія Маркес** выйшаў 6 сакавіка, у свой 87-ы дзень народзінаў. Як заўжды элегантны, з жоўтай ружай у пятліцы, ён адказваў на пытанні чытачоў.



Яго не стала 17 красавіка. Ён сканаў у сваім доме на поўдні Мехіка, у атачэнні сям'і. Нядаўна яго выпісалі з клінікі, дзе пісьменнік праходзіў курс лячэння антыбіётыкамі. Шпіталізацыя была звязана з лёгачнай інфекцыяй і абязводжваннем арганізма. Ён быў слабы пасля лячэння, але сям'я спадзявалася на лепшае.

Правільна, дарэчы, казаць не Маркес, а «Гарсія Маркес»: Гарсія — бацькава прозвішча, Маркес — матчына. Асноўным ён зрабіў больш рэдкае.

Маркес нарадзіўся 6 сакавіка 1928 у мястэчку Аракатака на беднай поўначы Калумбіі. З'ехаўшы ў іншы горад, бацькі пакінулі старэйшага сына на выхаванне дзеду з бабай. Бабуля была казачніцай, дзед — адстаўны палкоўнік, удзельнік грамадзянскай вайны 1899—1903. У тым доме, поўным таямніц і гісторый, якія старыя баілі ўнуку, пачынаўся Маркес-пісьменнік. Аракатака стане правобразам славутага Маконда, трапіць у раманы і многае з пабачанага малым Габа ў дзяцінстве. Гэта стала зразумела нядаўна, калі выйшлі яго мемуары «Жыць, каб расказваць пра жыццё». Аракатаку нават хацелі колькі гадоў таму перайменаваць у Маконда, але не сабралі дастаткова галасоў.

Габа навучыўся чытаць у пяць гадоў, і яго першая настаўніца Ева Фергюсан была ягоным першым каханнем. Пасля Евы былі езуіцкая школа, дзе Габа пісаў нататкі для школьнай насценгазеты, і нацыянальны каледж Зікапіры каля Багаты. Бацькі хацелі, каб ён стаў юрыстам, але хлопец заняўся журналістыкай і пісьменніцтвам. Праўда, вучоба на юрфаку ў Багаце мела сэнс: там пісьменнік пазнаёміўся з будучай жонкай Мерсэдэс Барча.

Габрыэль працаваў у газетах Картахены, Баранкільі, Багаты. У 1955 сталічная El Espectador надрукавала серыю яго нарысаў «Праўда пра мае прыгоды, заснаваная на апавяданнях уратаванага вайсковага марака». З іх стала вядома, што калумбійскія вайсковыя караблі перавозяць кантрабанду. Публікацыя выклікала скандал, Маркес мусіў выехаць у Еўропу спецкарэспандэнтам. А газету пасля зачынілі, калі да ўлады прыйшоў правы дыктатар Рохас Пінілья.

Пераварот Пінільі заспеў Маркеса ў Парыжы. Там ён скончыў — пасля адзінаццаці перарробак —, аповесць «Палкоўніку ніхто не піша». У наступныя гады Маркес працуе ў Венесуэле і на Кубе, наведвае маскоўскі сусветны фестываль моладзі, жэніцца з Мерсэдэс.

Самы знакаміты свой раман «Сто гадоў адзіноты» ён пачаў у 1965. Маркес ехаў на машыне ў Акапулька, калі яму ў галаву прыйшла ідэя першай часткі. Ён развярнуўся, прыехаў дадому, заклаў машыну, і аддаўшы жонцы грошы, зачыніўся ў сваім пакоі. Пісаў 18 месяцаў, курыў па тры пачкі цыгарэт на дзень. Карміла сям'ю ўвесь гэты час жонка. Калі праца была скончаная, Маркесы мелі пазык на 12 тысяч даляраў. Але раман усё акупіў: ён выйшаў у Лацінскай Амерыцы рэкордным накладам у 500 тысяч асобнікаў.

У 1974 Маркес заснаваў у Багаце левую газету «Альтэрнатыва» і ад 1975 да 1981, пакуль ва ўладзе ў Чылі знаходзіўся Пінахэт, займаўся палітычнай журналістыкай. Першы наклад яго рамана «Небяспечныя прыгоды Мігеля Ліціна ў Чылі» — пра апальнага рэжысёра, які пад пагрозай смерці нелегальна прыехаў у Чылі, — сам Пінахэт асабіста загадаў знішчыць.

У 1982 Маркес стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры «за раманы і апавяданні, у якіх фантазія і рэальнасць спалучаюцца і адлюстроўваюць жыццё і канфлікты цэлага кантынента».

У 1989 у Маркеса дыягнаставалі рак лёгкіх (згадаем пра тры пачкі цыгарэт на дзень). Пасля аперацыі хвароба адступіла, але ў 1999 выявілася новая анкалогія — лімфатома. Яго двойчы апераравалі ў ЗША і Мексіцы, быў доўгі курс лячэння.

Апошні раман Маркеса, «Успаміны пра маіх сумных бл... ей», выйшаў у 2004. Аўтар пісаў яго дзесяць гадоў. Пісьменнік усё радзей выходзіў на людзі. А ў 2012 яго брат Хаймэ Гарсія Маркес паведаміў, што Габрыэль дзяцінее, мае праблемы з памяццю і больш не можа пісаць.

31 сакавіка 2014 Маркес быў шпіталізаваны з-за лёгачнай інфекцыі і інфекцыі мочавыводных шляхоў у клініку Мехіка. У хуткім часе пасля выпіскі яго не стала. «Тысяча гадоў адзіноты і суму з-за смерці самага вялікага калумбійца ўсіх часоў», — напісаў у сваім Твітары прэзідэнт Калумбіі Хуан Мануэль Сантас.

**СМ**

**Магічны рэалізм**

Тэрмін «магічны рэалізм» існаваў і да Маркеса, але менавіта калумбіец стварыў узоры стылю, прыватызаваў. Дзівосныя творы Маркеса чыталі ва ўсім свеце. Славу ён займеў пасля выхаду рамана «Сто гадоў адзіноты». Праз сям'ю Буэндзія Маркес паказаў стагадовую гісторыю Калумбіі са шматлікімі войнамі, рэвалюцыямі ды пераваротамі.

**Як Льёса біў Маркеса**

Габрыэль Гарсія Маркес і перуанец Марыа Варгас Льёса — два найвялікшыя лацінаамерыканскія пісьменнікі другой паловы XX стагоддзя. Яны пазнаёміліся ў 1967-м, назваліся «братамі і найлепшымі сябрамі» і нават збіраліся пісаць у чатыры рукі раман аб калумбійска-перуанскай вайне 1930-х.

Сяброўства скончылася ў 1976. Маркес пабачыў Льёсу на кінапрэм'еры і пайшоў насустрач, расставіўшы рукі для абдымкаў. Але быў сустрэты кулаком Льёсы. Гэта, канечне, была няроўная бойка. Льёса — былы баксёр, вайсковец, на дзясятак гадоў маладзейшы супраць не самага крэпкага Маркеса.

Пляткарылі, што Маркес, вялікі лавелас, спакусіў жонку Льёсы. Ці так гэта было насамрэч — ніхто не ведае. Але пасля таго інцыдэнту пісьменнікі варагавалі амаль 40 гадоў.

**Сябры Кастра і Чавес**

Маркес сябраваў з Фідэлем Кастра. «Гэта вельмі культурны чалавек. Калі мы сустракаемся, то размаўляем пра літаратуру», — казаў калумбіец. Па сутнасці, «Восень патрыярха» — гэта раман пра Кастра. Хаця адначасова і пра ўсіх іншых дыктатараў свету. Нават пра Лукашэнку. З беларускім лідарам Маркес знаёмы не быў, але ёсць перакананне, што супольную мову яны б знайшлі.

Гэтаксама, як з Чавесам. Маркес быў блізкі і з гэтым незвычайным чалавекам. Нават напісаў пра яго эсэ «Два твары Уга Чавеса».

# Тамара Шэрман: «Маркес казаў: у мяне ноч дзеліцца на дзве паловы»

Культавы раман Маркеса «Восень патрыярха» на расейскую пераклалі беларусы Карлас Шэрман і Валянцін Тарас.

Спадарыня Тамара Шэрман, удава Карласа Шэрмана, жыве цяпер у Нарвегіі, у Крысціянсане. Карэспандэнт «НН» звязаўся з ёй, каб пачуць пра сустрэчу яе мужа з Гарсія Маркесам.

З Беларусі Шэрманы выехалі ў пачатку 2000-х. Дырэктару Беларускага ПЭН-цэнтра Карласу Шэрману, які пакутаваў на анкалагічнае захворванне, спатрэбілася аперацыя, а рабіць яе ў Мінску, кажа спадарыня Тамара, яны пабаяліся. Гэта было ў няпэўнай і пагрозлівай палітычнай атмасферы канца 90-х, пасля знікнення Ганчара і Красоўскага, пасля загадкавай смерці Карпенкі, пасля выезду Быкава ў Фінляндыю.

76-гадовая спадарыня Тамара сумуе без жывой беларускай мовы. Здаецца, што ёй хочацца гаварыць і гаварыць, знаходзіць усё новыя тэмы, успамінаць усё новыя сюжэты, каб задаволіць гэтую прагу...

«Я нават заплакала, калі сказалі ў навінах пра Маркеса, — расчулена кажа яна. — У мяне тут яго кніжка была, з аўтографам, ён Карласу падпісаў «Восень патрыярха», калі яны сустракаліся ў Маскве». Гэта была адзіная сустрэча Карласа Шэрмана з аўтарам.

«Маркесу так спадабаўся пераклад — ён не чытаў па-расейску, вядома, але асістэнтка яго-ная чытала і ацэньвала. Маркес вельмі дзякаваў. І муж прыехаў з Масквы ў захапленні ад Маркеса, ад таго, які гэта чалавек. Пісьменнік многа расказваў пра сваю сям'ю, пра двух сыноў. Такі бацька — уяўляеце! Казаў: для мяне ноч дзеліцца на дзве паловы — калі сыноў няма дома і калі сыны прыйшлі і спяць у сваёй пасцелі. Пакуль сыноў не было дома, ён не мог заснуць». Гісторыя пра тое, як два беларусы, Шэрман і Тарас, пераклалі «Восень патрыярха» раней за маскоўскіх спецыялістаў, гучала не раз. «Калі Карлас прачытаў раман, ён быў у захапленні. Ён спяшаўся атрымаць дазвол на пераклад, каб Масква не перахапіла. Яны з Валянцінам Тарасам разам узяліся — каб скарэй перакласці. Што там было! Начамі званілі адзін аднаму. Кожнае слова абмяркоўвалі. Памятаю, шукалі замěннік слову «грыжа», дык Валя [Валянцін Тарас] звоніць і крычыць: «Карлас! Знайшоў слова — кіла!»

Раман быў надрукаваны ў 1977 у часопісе «Нёман». Імгненна часопіс стаў дэфіцытам.

«Восень патрыярха» шматкроць перавыдавалі вялікімі накладамі. Ці мае сям'я Шэрмана нейкі прыбытак з тае працы?

«Некалькі гадоў таму выдавалі ў Маскве, пасля прыслалі аўтарскія — шэсцьсот еўра. На тэлефонныя перамовы ды падаткі больш грошай і нерваў пайшло», — кажа спадарыня Тамара.

Шэрману ў Нарвегіі зрабілі 13 аперацый. Апошняй, у 2005-м, ён не вытрымаў. Яго крэміравалі, а прах пахавалі ў Мінску. У двухпакаёўцы, дзе засталася жыць спадарыня Тамара, ёсць «куток Карласа» — накшталт хатняга алтара. «Я яму ўсё расказваю, веру, што ён мяне чуе. Пайду, раскажу, што Маркеса няма. Хоць Карлас там, можа, раней за мяне пра гэта ведаў».

На беларускую мову Карлас Шэрман пераклаў раман Маркеса «Каханне падчас халеры». Гэты пераклад друкаваўся ў часопісе «Arche» і ёсць у вольным доступе ў інтэрнэце.

**Запісаў Сяргей Мікулевіч**

## ФУТБОЛ

### «Гомель» — «Дынама»

**26—27 красавіка** адбудуцца матчы 5-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.

**У суботу** гуляюць:
«Нёман» (Гродна) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Дняпро» (Магілёў);
«Гомель» — «Дынама» (Мінск).

**У нядзелю:**
«Дынама» (Брэст) — БАТЭ (Барысаў);
«Белшына» (Бабруйск) — «Слуцк»;
«Мінск» — «Нафтан» (Навапалацк).

### Адкрыццё «Барысаў-Арэны»

**3 мая адбудзецца адкрыццё новай «Барысаў-Арэны».** Стадыён пабудаваны на ўскрайку горада, блізу вайсковага гарадка Печы. Першай гульнёй на стадыёне будзе фінал Кубка Беларусі. Сыдуцца салігорскі «Шахцёр» і гродзенскі «Нёман». «Барысаў-Арэна» — самы сучасны стадыён краіны, найбліжэйшыя гады там будзе гуляць зборная.

## КАНЦЭРТЫ

### «Крама»

**24 красавіка ў бары Tarantino (Кастрычніцкая, 5)** адбудзецца ўручэнне прэміі Rock Profi і выступ гурту «Крама». Пачатак а 19-й.

### Akute ў Брэсце

**26 красавіка ў клубе «Сфера» (Суворава, 108)** адбудзецца канцэрт Akute і WeArtists. Пачатак а 18. Білеты — 90—100 тысяч рублёў.

### Recha

**27 красавіка гурт Recha** грае сольны канцэрт у паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16). Пачатак а 19-й.

### «Разбітае сэрца пацана»

**28 красавіка а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** выступае гурт «Разбітае сэрца пацана».

## ВЫСТАВЫ

### Сто гадоў беларускага авангарду

**Па адрасе пр-т Пераможцаў, 14** працуе выстава сучаснага мастацтва «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта», тут у адной экспазіцыя паслядоўна і поўна сабраныя творы авангарду, андэграўнду, нонканфармізму ад 1910-х па 1990-я гады.






### «Мастак і горад»

**На плошчы Якуба Коласа** разгарнуўся выставачны праект «Мастак і горад», на ім прадстаўленыя творы 16 графікаў і жывапісцаў — самых яркіх прадстаўнікоў сучаснага беларускага мастацтва.

### «Intro & Outro»

**Галерэя TUT.BY (Веры Харужай, 1А, 6-ы паверх)** прэзентуе праект Настассі Кулажанкі «Intro & Outro». У ім гарманічна спалучыліся музыка, каліграфія, графічныя і жывапісныя прыёмы, камп'ютарная графіка і фатаграфія. «Intro&Outro» — спроба аўтара аб'яднаць у візуальнай форме музычныя вобразы, створаныя спевакамі і кампазітарамі, блізкімі па духу і сэнсах, інтанацыі і рытме.

## ТАТРЫ

### 24 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Местачковае кабарэ
**Юнага гледача** — Мешчанін у шляхецтве

### 25 красавіка

**Купалаўскі** — Офіс
**Лялек** — Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна
**Юнага гледача** — Міхалава зямля

### 26 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Чарнобыльская малітва
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна
**Оперы і балета** — Травіята
**Юнага гледача** — Брык і Шуся шукаюць лета, Шытая лялька Рэгедзі Эн

### 27 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Лялек** — Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Юнага гледача** — Тры парсючкі

### 28 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Лес

### 29 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Лес
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа

### 30 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Оперы і балета** — Мадам Батэрфляй

## КІНО

### Стары інтрыган

Сабатаж
баявік, крымінальная драма
Рэжысёр: Дэвід Эер
У ролях: Арнольд Шварцэнэгер, Мірэй Інас, Алівія Уільямс, Джо Манганьела, Сэм Уорцінгтан, Макс Марціні.
ЗША, 109 хв.

Элітная аператыўная група DEA на чале з Джонам Уортанам змагаецца з самымі небяспечнымі наркакартэлямі ў свеце. Каманда спецыялізуецца на складаных мабільных аперацыях і чарговы раз здзяйсняе рэйд на канспіратыўную кватэру картэля. Тое, што выглядае як тыповая аперацыя, на самай справе аказваецца прадуманым працэсам крадзяжу грошай, які атрад DEA загадзя сплanaваў. Але калі каманда вяртаецца па мільёны, выкрадзеных грошай у сховішчы няма, а сама група падпадае пад падазрэнне. Атрад маркуе, што іх сакрэт знаходзіцца ў бяспецы, бо ўсе маўчаць, аднак хтосьці па адным пачынае забіваць членаў каманды.

Рэжысёр Дэвід Эер — адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў у жанры крымінальнай драмы («Каралі вуліц», «Патруль»). У супрацоўніцтве з Жалезным Арні ён стварыў баявік, які адрозніваецца ад братоў па жанры хваціка закручаным сюжэтам. Арні ж выступае ў сваім амплуа крутога ваякі з асабістай драмай. Стае і адсылак да мінулых эпічных роляў. У фільме безліч крывавых кадраў, таму людзям з нетрывалай псіхікай глядзець не рэкамендуецца.

**Настасся Уласава**



# У чым поспех карэйскай адукацыі

Беларусь чарговы раз вырашыла скарэктаваць правілы паступлення ў ВНУ. Міністэрства адукацыі спрабуе хоць неяк павысіць узровень абітурыентаў і агульнай адукацыі. Паўднёвая Карэя — адзін з лідараў у свеце ў сістэме адукацыі. Мы пагутарылі з другім сакратаром пасольства Карэі ў Мінску спадаром Ку Бон Ілем аб сакрэце поспеху карэйскай адукацыі.

**«Наша Ніва»: Якія рэформы і калі праводзіліся ў карэйскай сістэме адукацыі?**

**Ку Бон Іль:** З адкрыццём карэйскіх партоў у канцы XIX ст. пачалася палітыка «адчыненых дзвярэй », гэта адбілася і на сістэме адукацыі. Складаючы з іншымі краінамі свету дамовы аб гандлі, карэйскі ўрад судакранаўся з развітой цывілізацыяй Захаду , што дало кіраўнікам краіны і першапраходцам імпульс да пачатку руху па ўкараненні сучаснай адукацыі.

Да 1910 года агульная колькасць прыватных навучальных устаноў па ўсёй краіне, у тым ліку 796 хрысціянскіх школ, дасягнула амаль 3-х тысяч.

Пасля вызвалення ад японскага каланіяльнага панавання 15 жніўня 1945 намаганні карэйскага інстытута адукацыі ішлі на тое, каб знайсці такі курс у нацыянальным навучанні, які б не проста слепа пераймаў ідэі з Захаду, а служыў фарміраванню новага грамадскага парадку шляхам перабудовы існуючай сістэмы з улікам наватарскіх заходніх канцэпцый.

З пачаткам Пятай Рэспублікі шляхам рэалізацыі рэформы ў сістэме адукацыі 30 ліпеня 1980 быў прыняты шэраг важных мер, такіх, як скасаванне індывідуальных заняткаў з рэпетытарамі, змена сістэмы адзнак у вышэйшай школе, укараненне сістэмы паступлення ва ўніверсітэты на аснове вынікаў дзяржаўных экзаменаў, увядзенне сістэмы 4-гадовага навучання ў педагагічных навучальных установах.

З моманту атрымання незалежнасці і да цяперашняга часу сферай , на якую ўрад зрабіў найбольшы акцэнт, з'яўляецца пачатковая адукацыя: была ўведзеная праграма абавязковага шасцігадовага навучання, такім чынам за пачатковай адукацыяй замацаваўся прынцып абавязковасці і бясплатнасці. «Асноўны закон аб адукацыі» 1998 года абвяшчае: «Кожны грамадзянін мае права на атрыманне абавязковай адукацыі, якое ўяўляе сабой 6 гадоў навучання ў пачатковай школе і 3 гады — у сярэдняй. У залежнасці ад фінансавай сітуацыі ў краіне абавязковае 3-гадовае навучанне ў сярэдняй школе ажыццяўляецца ў адпаведнасці з указам Прэзідэнта».

**«НН»: Якая сістэма паступлення ў карэйскія ўніверсітэты?**

**КБІ:** Цяпер у Карэі навучанне ў пачатковай школе доўжыцца 6 гадоў, у сярэдняй — 3 гады, у вышэйшай —3, ва ўніверсітэце —4, то бок па сістэме 6-3-3-4. У Беларусі да паступлення ва ўніверсітэт працэс навучання праходзіць у адным месцы, у Карэі ж пачатковая, сярэдняя і вышэйшая школы функцыянуюць асобна, са сваімі ўступнымі і выпускнымі экзаменамі.

Сучасная карэйская сістэма паступлення ва ўніверсітэт прадугледжвае, што навучэнец вышэйшай школы для паступлення ва ўніверсітэт у першую чаргу здае экзамен на здольнасць да навучання ў вышэйшай навучальнай установе (складаецца найперш з заданняў па карэйскай і англійскай мове, матэматыцы, а таксама прадметах на выбар абітурыента, здаваць можна раз на год). Да гэтага экзамена вучні рыхтуюцца цэлы год. Таксама пад увагу бяруцца і такія важныя фактары, як высокія адзнакі ў рэгістры школьнага жыцця .

Рэгістр школьнага жыцця, ці, як яго яшчэ называюць, вучнёўская ведамасць, справаздача аб паспяховасці, уяўляе сабой журнал, у якім фіксуецца разнастайная інфармацыя пра школьнае жыццё вучня. Справаздача аб паспяховасці дзеліцца на «дысцыплінарную» і «недысцыплінарную». «Дысцыплінарная справаздача» складаецца на падставе рэйтынгавай сістэмы ацэнкі ведаў, а ў аснове «недысцыплінарнай справаздачы » ляжыць інфармацыя аб грамадскім жыцці, атэстат, сертыфікацыі валодання англійскай мовай, узнагароды і дасягненні .

Планавы набор у ВНУ ажыццяўляецца пасля абвяшчэння вынікаў «экзамену на здольнасць да навучання ў ВНУ» . Планавы набор прадугледжвае класіфікацыю навучальных устаноў па групах (ка-гун, на-гун, та-гун), такім чынам, агулам можна здаваць уступныя экзамены ў тры ВНУ. Кожны ўніверсітэт адбірае студэнтаў на падставе сумарных вынікаў «экзамена на здольнасць да навучання ў ВНУ» , дадзеных з «рэгістра школьнага жыцця», а таксама ўласных уступных экзаменаў.

**«НН»: Ці вялікія заробкі ў настаўнікаў і выкладчыкаў універсітэтаў?**

**КБІ:** Настаўнікі пачатковай, сярэдняй і старэйшай школы ў Карэі атрымліваюць заробак, які адпавядае заробку карэйскага чыноўніка, у залежнасці ад стажу працы ён можа павялічвацца. Так, па неафіцыйных дадзеных, гадавы аклад мужчыны, які выкладае карэйскую мову, англійскую мову або матэматыку са стажам працы 5—6 гадоў з улікам розных надбавак складае каля 40 тысяч даляраў у год.

Гадавы аклад прафесара ўніверсітэта ў залежнасці ад узроўню яго дасягненняў і асабістых здольнасцяў, а таксама зыходзячы з таго, прыватны ці дзяржаўны ўніверсітэт з'яўляецца месцам яго працы , што істотна ўплывае на памер акладу, складае каля 70 тысяч даляраў.

**«НН»: Якія прадметы вывучаюцца ў школах?**

**КБІ:** У пачатковай школе вывучаецца карэйская мова, англійская мова, этыка, грамадазнаўства, матэматыка, прыродазнаўства, фізкультура, мастацтва.

У сярэдняй школе — карэйская мова, англійская мова, этыка, грамадазнаўства, матэматыка, прыродазнаўства, працоўнае навучанне, фізкультура, музыка, выяўленчае мастацтва.

У старэйшай школе да прадметаў дадаецца вывучэнне гісторыі.

Акрамя вышэйзгаданых абавязковых дысцыплін ёсць і факультатыўныя: кітайская іерогліфіка, інфарматыка, ахова навакольнага асяроддзя, медыцына, другая замежная мова, а таксама рознага роду практычныя заняткі і грамадская дзейнасць.

**«НН»: Ці шмат увагі надаецца вывучэнню англійскай мовы?**

**КБІ:** У нашай краіне англійская мова ў пачатковай школе ў асноўным пачынае выкладацца з 3 класа. У год агульная колькасць абавязковых гадзін англійскай мовы для 3-4 класаў пачатковай школы складае 45 гадзін за год, для 5-6 класаў — 68 гадзін , для сярэдняй школы — 85 гадзін. Акрамя таго, з-за павальнага жадання бацькоў у Карэі навучаюць дзіця англійскай мове з самага дзяцінства, актыўна ўводзіцца практыка выкладання такіх прадметаў, як грамадазнаўства і прыродазнаўства, на англійскай мове ў дадатак да рэгулярных заняткаў. Агульная колькасць гадзін для заняткаў англійскай мовай у 40 прыватных пачатковых школах Сеула ў 2013 годзе склала 1341 гадзін, а ў дзяржаўных пачатковых школах —340 гадзін, і сведчыць аб існаванні значных адрозненняў паміж дзяржаўнымі і прыватнымі школамі. Гэтыя адрозненні, зразумела, прыводзяць да празмернага распаўсюджвання прыватнага рэпетытарства ў дадатак да рэгулярных і факультатыўных заняткаў, што вядзе да росту сацыяльных праблем.

У якасці другой замежнай мовы ў сярэдняй і старэйшай школе найбольшай папулярнасцю карыстаюцца нямецкая, французская, іспанская, японская, руская і арабская мовы.

**«НН»: Колькі гадзін у дзень займаюцца карэйскія школьнікі?**

**КБІ:** У Карэі колькасць афіцыйных навучальных дзён у годзе складае 190 дзён, што, выключаючы некалькі краін-удзельніц Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця з меншай колькасцю дзён (ЗША — 180, Японія — 175, Францыя — 175-180, Беларусь — 175) , з'яўляецца сярэднім паказчыкам сярод большасці краін.

1) Пачатковая школа — 1, 2 класы: 560 гадзін за год;

3—4 класы: 657 гадзін;

5—6 класы: 725 гадзін.

2) Сярэдняя школа : 841 гадзін.

3) Старэйшая школа: 963 гадзіны.

**«НН»: Ці шмат адлічваюць людзей з універсітэтаў?**

**КБІ:** У карэйскіх універсітэтах уведзена сістэма папярэджанняў. У Сеульскім нацыянальным універсітэце ў выпадку атрымання студэнтам менш чым 1,7 крэдыта (адзнака 4) ці наяўнасці больш чым па трох дысцыплінах адзнакі F (найніжэйшая), ён атрымлівае папярэджанне. Калі назапашваецца 4 такія папярэджанні, студэнт выключаецца з навучальнай установы і паўторна паступіць ва ўніверсітэт мае права толькі праз год. Пасля паўторнага паступлення ва ўніверсітэт і атрымання яшчэ 2 папярэджанняў, паступіць зноў студэнт ужо не можа. У дадатак да дрэннай паспяховасці ёсць і іншыя прычыны, па якіх студэнт можа пакінуць навучальную ўстанову. Ёсць выпадкі, калі студэнт, пачаўшы ў перыяд навучання працаваць, вырашае, што вучоба яму не патрэбна і кідае яе. У 2012 годзе ў Сеульскім нацыянальным універсітэце колькасць студэнтаў, якія пакінулі ўніверсітэт па прычыне адлічэння або па ўласным жаданні, дасягнула лічбы 141 чалавек. Улічваючы той факт , што ў 2012 годзе колькасць людзей, якія паступілі ва ўніверсітэт, склала 3596 чалавек, працэнт тых, хто пакінуў вучобу, склаў 3,59 %.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



**Бацькі хочуць больш англійскай мовы, таму грамадазнаўства таксама вядуць па-англійску**

**Настаўнік зарабляе 3500, выкладчык універсітэта — 5500 даляраў за месяц**

Не ўсім карэйскім дзецям вучоба даецца лёгка.



Сяргей Гудзілін

Ку Бон Іль.

### Навучальны год

дзеліцца на два семестры. Першы — ад сакавіка да сярэдзіны ліпеня. Другі — з канца жніўня да сярэдзіны лютага.

### Плата за навучанне

Пачатковая і сярэдняя школы бясплатныя, а вось вышэйшая — платная. Тым не менш, у яе ідзе вучыцца больш за 90% школьнікаў. Навучанне ва ўніверсітэтах таксама вядзецца толькі за грошы. Але ёсць сістэма грантаў для паспяховых вучняў.



Традыцыйны інсцэніраваны Крыжовы шлях прайшоў перад Вялікаднем каля касцёла Найсвяцейшай Троіцы (Святога Роха) на Залатой Горцы ў Мінску. Пасля Крыжовага шляху адбылася святая імша, якую ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.




Ультрас ФК «Мінск» зрабілі новае графіці «Героям слава» ў падтрымку ўкраінскага народа. Раней падтрымку паўднёвым суседзям выказвалі фанаты «Дынама» і БАТЭ.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Максім Багдановіч.**
**Эмігранцкая песня**

Ёсць на свеце такія бадзягі,
Што не вераць ні ў Бога, ні ў чорта.
Ім прыемны стракатыя сцягі
Караблёў акіянскага порта.
І няма ім каго тут пакінуць,
Бо нікога на свеце не маюць.
Ўсё ім роўна: ці жыць, ці загінуць, —
Аднаго яны моцна жадаюць:
Пабываць у краях незнаёмых,
Ды зазнаць там і шчасця і гора,
І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора.
Але мы — не таго мы шукаем,
Не таго на чужыне нам трэба.
Не рассталіся б мы з нашым краем,
Каб было дзеля нас у ім хлеба.
І на вуліцы пад грукат, пад гоман,
Дзе натоўп закруціўся рухавы,
Нам маячыцца вёсачка, Нёман
І агні партавыя Лібавы.

**«НН». №17. 1914.**

**Старая і новая «Еўропа».** У Мінску на загад Лукашэнкі адновяць гатэль, дзе засядаў урад БНР. Праўда, не на тым месцы. Адбудова гэтага выбітнага помніка ў Мінску сведчыла б пра многае. Пачынаючы ад назвы і скачнаючы традыцыяй.

**«НН». №16. 2004.**




Сын старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай працягвае троліць інтэрнэтаў (а заадно і сваю маці) вясёлымі здымкамі. Карыстальнікі Фэйсбука сустрэлі яго ў цягніку Вільня—Мінск у майцы з надпісам «Я люблю мамін боршч».



«Міс журфак БДУ» стала студэнтка першага курса Вераніка Станкевіч. Дзяўчына выступала на сцэне ў нацыянальным строі пад песню «Касіў Ясь канюшыну».

## Анекдоты і жарты

* * *

– А вы чулі, што песні Цою пісалі ў ЦРУ?
– І прозвішча ў яго нярускае. Яўна бандэравец.

* * *

Скажы мне — чый мае быць Крым, і я скажу — хто ты.

***

Дачка прачынаецца а другой ночы:
— Мама, а раскажы мне казку.
— Спі, дачушка, тата раніцай прыйдзе — нам абедзвюм раскажа.

* * *

Прачнуўся ўранку і думаю: «Устану — горы звярну...» А пасля павярнуўся на другі бок і думаю: «Нашто ў прыроду ўрывацца, хай стаяць!»

* * *

Я з пакалення тых, хто на дачы смажыць шашлыкі, а не саджае бульбу.

* * *

Забаўна, калі жанчына піша ў статусе: «Мой муж найлепшы». І ўсе яе сяброўкі... ставяць лайк.

* * *

«На месцы падзення чалябінскага метэарыта была знойдзена візітка Яраша». — МЗС Расіі.

* * *

Галоўны лозунг данецкіх сепаратыстаў: «Хто не п'яны — той бандэравец».

* * *

Паслуга «Брат на паўгадзіны». Мужчына крымінальнага выгляду прыйдзе ў школу і заступіцца на перапынку за клієнта.

* * *

Калі робіш з дзіцем урокі, пастаянна закрадаецца думка: «А я наогул вучыўся?»

* * *

— Ты такую, як я, больш не знойдзеш.
— Я такую, як ты, больш шукаць не буду.

* * *

Да Мытнага саюза Казахстана, Расіі і Беларусі далучаецца Арменія. Цяпер арганізацыя будзе называцца па першых літарах краін-удзельніц — КРАБ.

**Наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе 7 мая. Нагадаем, што 29 красавіка Радаўніца — дзень, калі наведваем родныя магілы**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Тацяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
Падпісны індэкс:
індывідуальны — 63125
для прадпрыемстваў — 631252

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 22.04.2014.
Замова №1440.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12